21 верасня 2018 | № 34 (597)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Данецк пасля Захарчанкі**
Стар. 8

**4 УСЁ НА КАНТРОЛІ**

Пры пошуку залатой сярэдзіны паміж свабодай і прымусам аўтар «беларускай мадэлі» аддае перавагу прымусу

**5 ВЕЙШНОРЫЯ: ДЭМАКРАТЫЯ «НА КАЛЕНЦЫ»**

21 верасня віртуальная краіна святкуе гадавіну перамогі ў «сямідзённай вайне», — у час вайсковых вучэнняў «Захад–2017» у Беларусі



**6–7 ГОРАД СОНЦА ГЕНАДЗЯ КАРПЕНКІ**

Адзін з буйных гарадоў рэспублікі быў абраны ў якасці своеасаблівага выпрабавальнага палігона для рынкавых рэформаў

**10 «ДУБЛЁР ТРАЕЦКАЙ»**

Стары Гродна зноў пад пагрозай



# МУС супраць краіны

## Міжволі ўзнікае пытанне: на каго працуе кіраўніцтва МУС?



Сяргей ПУЛЬША

Падавалася б, у Міністэрства ўнутраных спраў багата тых самых спраў, каб улазіць у бессэнсоўныя спрэчкі. Але кіраўнік ведамства Ігар Шуневіч за якімсьці лядам вырашыў «пайсці ў ай-ці». І зноў адбыўся выпадак, калі лепш маўчаць, чым гаварыць.

Кіраўнік МУС ацаніў законапраект па ідэнтыфікацыі інтэрнэт-карыстальнікаў. Ацэнка ўражвае: паводле яго меркавання, усе павінны хадзіць у шыхце і ў аднолькавым адзенні. Калі БелТА правільна перадала словы Шуневіча, то ён лічыць, што любая дзейнасць павінна здзяйсняцца згодна з пэўнымі правіламі, а калі гэтых правілаў няма — адбываецца анархія, безуладдзе і прыніжэнне правоў, свабод і асобы грамадзяніна.

«Давайце прызнаемся, інтэрнэт зараз — гэта зона абсалютна безадказных паводзінаў, выказванняў, меркаванняў, абраз, распаўсюджвання паклёпу, здзяйснення канкрэтных крымінальных злачынстваў, адміністрацыйных правапарушэнняў. За кожны ўчынак чалавек павінен адказваць, асабліва калі ён парушае нечыя правы, інтарэсы. Зыходзячы з гэтага, лічу мэтазгодным, правільным і своечасовым вырашэнне пытання аб ідэнтыфікацыі ўдзельнікаў гэтага працэсу. Гэта дысцыплінуе тых людзей, якія сёння не ведаюць ні правоў, ні межаў, ні маралі, ні прынцыпаў. Усёдазволенасці ў нейкай ступені будзе пастаўлены бар’ер», — заявіў Шуневіч.

Пасля такіх словаў, выказаных публічна, у нармальнай краіне міністр сыходзіць у адстаўку. Вынікае, што Шуневічу не падабаюцца свабодныя выказванні і меркаванні? Аднак гэтую свабоду гарантуе беларуская Канстытуцыя, артыкул 33: «Кожнаму гарантуецца свабода меркаванняў, перакананняў і іх свабоднае выказванне». Такім чынам, міністр унутраных спраў заклікае абмежаваць гарантаваныя Канстытуцыяй правы — то-бок, парушыць Асноўны закон краіны. А калі міністр ведамства, адказнага за выкананне закону, сам заклікае парушаць закон — гэта ўжо фініш.

Чаму Шуневіч заклапаціўся рэгуляцыяй інтэрнэту — зразумела. Тыдня не праходзіць, каб у навінах не вылазілі б непрывабныя ўчынкі і дзеянні яго падначаленых. Сам кіраўнік МУС называе гэта «інфармацыйнай вайной», але насамрэч — гэта вынік яго працы.

Як можа быць законапаслухмянай міліцыя, кіраўнік якой выходзіць на людзі ў форме НКУС — структуры, якая славілася сваімі катаваннямі, беззаконнем і беспакаранасцю?

Зразумела ж, шарагоўцы бяруць прыклад са свайго кіраўніцтва. І калі ўжо міністр заклікае парушаць Канстытуцыю — які міліцыянт будзе звяртаць увагу на закон?

Як ні дзіўна, адмыслоўцы не вельмі занепакоеныя чарговай «рэгуляцыяй інтэрнэту». З гэтай нагоды выказаўся кіраўнік tut.by Юры Зісер, свае «пяць капеек» уставіла Беларуская асацыяцыя журналістаў — і на гэтым «хайп», як зараз модна казаць, скончыўся. Скончыўся па вельмі простай прычыне: распрацоўшчыкі сістэмы «ідэнтыфікацыі карыстальнікаў» у чарговы раз спазніліся. Свой рэгулятар па нумары тэлефона альбо яшчэ чым яны выдумалі для нават не ўчорашняга — пазаўчорашняга дня. Зараз на сайце нешта каментуюць зусім апантаныя людзі (і мы ім за гэта ўдзячныя, праўда). Асноўная частка каментараў прыходзіцца на сацыяльныя сеткі, і, падаецца, няма ўжо ніводнага сайту, на якім бы не было б інтэграцыі з гэтымі сеткамі: «Аднакласнікамі», «УКантакце», «Фэйсбукам».




**Чарговая спроба прыкрыць інтэрнэт, паставіць пад кантроль яго карыстальнікаў — шлях у нікуды**

Што тычыцца адміністрацыйных і крымінальных злачынстваў, пра якія казаў спадар Шуневіч, то яны абмяркоўваюцца праз месенджары — той жа «Тэлеграм», які беспаспяхова спрабавалі «накрыць» у Расіі.

Валадар «Фэйсбука» Марк Цукерберг і стваральнік «Тэлеграма» Павел Дураў пра Шуневіча нават не чулі і наўрад ці спалохаюцца яго ды пачнуць выконваць беларускія навацыі.

Чарговая спроба прыкрыць інтэрнэт, паставіць пад кантроль яго карыстальнікаў — шлях у нікуды. Колькі ўжо разоў казалі: інтэрнэт — толькі люстэрка. Можа, катэгарычнае, безапеляцыйнае, радыкальнае — але люстэрка настрояў грамадства. І калі гэтае люстэрка камусьці не падабаецца, ад спробаў яго замаляваць альбо разбіць настроі грамадства не зменяцца.

А вось улада закрые чарговы канал «зваротнай сувязі» і не будзе ведаць і адчуваць, што творыцца ў соцыуме. А потым са здзіўленнем будзе назіраць за чарговымі «маршамі недармаедаў» і, як кажа Аляксандр Рыгоравіч, «гвалтам крычаць»: прафукалі, прамаргалі.

Небяспека не толькі ў адсутнасці зваротнай сувязі. Святое месца не бывае пустым, і на месца беларускіх каментатараў прыйдуць замежныя «спецыялісты» — магчыма, з расійскай «фабрыкі троляў» у Ольгіна. Менавіта яны пачнуць фармаваць беларускую інтэрнэт-думку. У выніку адбудзецца тое, пра што папярэджваў нават Лукашэнка: «Або ў склад якой-небудзь дзяржавы ісці, або аб нас проста будуць выціраць ногі, а не дай Бог — развяжуць яшчэ вайну, як ва Украіне».

І тады мы ўзгадаем, хто пусціў у інфармацыйную прастору Сінявокай ідэалагічных дыверсантаў.



# «Нас можна збіваць, давіць машынамі — і ўсё гэта будзе беспакарана»

Алена ЛЯШКЕВІЧ,
Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Пацярпелым абаронцам Курапатаў ставяць супярэчлівыя дыягназы і адмаўляюць у расследаванні збіцця.**

На актывіста «Еўрапейскай Беларусі» Леаніда Кулакова 27 чэрвеня ля рэстарана «Поедем, поедим» падчас курапацкай варты наехала машына (за рулём была Злата Савостава). Людзі, якія знаходзіліся побач, выклікалі ДАІ, таксама пазванілі ў хуткую. Медыкі забралі Кулакова ў шостую гарадскую клінічную лякарню, дзе актывісту зрабілі здымак пашкоджанай пры наездзе рукі. Рэнтгенолаг канстатаваў, што ў Леаніда пералом рукі з абломкамі косткі. Траўматолаг, прагледзеўшы здымак, гэта пацвердзіў, і Кулакову наклалі гіпс.

Праз месяц, 27 ліпеня, актывіст прыйшоў да ўрача па месцы жыхарства, зрабіў здымак, які паказаў, што пералом не зросся. Гіпс пакінулі яшчэ на тры тыдні, і агулам Леанід Кулакоў прахадзіў з ім амаль два месяцы.

Аднак судмедэкспертаў, якім ДАІ накіравала паперы Кулакова, двойчы пацверджаны дыягназ не пераканаў. Абласная судмедэкспертыза дала заключэнне, што пералому няма. Праўда, сфатаграфаваць гэтае заключэнне актывісту не дазволілі, ён перапісаў яго ад рукі.

– Калі я ў абласной ДАІ падчас азнаямлення з дакументамі спытаў, у чым справа, маю медыцынскую карту адазвалі і накіравалі на экспертызу паўторна. Прайшло ўжо больш за месяц, а адказу ўсё яшчэ няма, увесь час прыходзяць лісты, што праверка працягваецца, — распавёў «Новаму Часу» Леанід Кулакоў. — У такім выпадку я сказаў, што буду падаваць на дактароў у суд, бо навошта я два месяцы насіў гіпс, калі пералому не было?

Хоць гіпс актывісту знялі яшчэ 20 жніўня, але рука ў яго ўсё яшчэ не згінаецца і не распрамляецца цалкам, ён не можа нічога ёй падняць, успухла запясце. Фактычна, Кулакоў часткова страціў дзеяздольнасць і перажывае, што ў яго атрафіраваліся мышцы.

Апроч таго, 14 ліпеня ля рэстарану «Поедем, поедим» была збітая яшчэ адна абаронца Курапатаў Мая Навумава. Па яе словах, у той дзень актывісты трымалі бусік, сіні «Форд», які выязджаў з рэстарану.

— Звычайна машыны выпускаюць, але мы трымалі яе таму, што пры нас яна на тэрыторыю рэстарана не заязджала (мы стаялі з 12 гадзін), — паведаміла Мая Навумава. — Мы падазравалі, што гэты бус заехаў з іншага боку па зялёнай зоне і парушыў ПДР. ДАІ паабяцала разабрацца. Але ў нейкі момант Зайдэс сказаў, што прымяніць да нас сілу, і неўзабаве даў адмашку сваім людзям, каб нас разагналі. З тэрыторыі рэстарана выйшлі чалавекі чатыры-пяць, нас адцягнулі ад машыны, і яна паехала. Я стала яе даганяць, кіроўца спужаўся, што я кінуся пад колы, і спыніўся, і я адна стала перад гэтым «Фордам». Але мяне дагналі і зноў адцягнулі.

Па словах жанчыны, яна не ведае, у які момант ёй паставілі сінякі, і не ведае чалавека, які гэта зрабіў. Пасля здарэння яна паехала ў судмедэкспертызу, каб зафіксаваць атрыманыя пашкоджанні.

— Яна была ўся ў сіняках, былі гематомы на руцэ, на грудзях. Напісала заяву аб збіцці ў міліцыю, але Бараўлянскі РАУС даў адказ аб спыненні вытворчасці па справе, бо гэта (збіццё. — заўв. НЧ.) было зроблена ненаўмысна, — кажа Леанід Кулакоў.

— Як мне патлумачыў міліцыянт Чарняўскі, у чалавека, які мяне збіваў, не было злога намеру, — пацвердзіла сама Мая Навумава.

Адметна і тое, што пазней за гэты эпізод суд аштрафаваў саму актывістку.

— Значыць, нас можна збіваць, давіць машынамі, ламаць косткі — і ўсё гэта будзе беспакарана, — робіць выснову Леанід Кулакоў.

Тым часам сустаршыня Беларускай хрысціянскай дэмакратыі Павел Севярынец заявіў, што варта ля рэстарану «Поедем, поедим» будзе трываць як мінімум да Дзядоў.

# Жыхарам смярдзіць, дырэктару завода — не

Марына ДРАБЫШЭЎСКАЯ

**Адміністрацыя Цэлюлозна-кардоннага камбіната запрасіла ўсхваляваную грамадскасць ды журналістаў на экскурсію па заводзе беленай цэлюлозы, на які паступае дужа шмат скаргаў ад мясцовых жыхароў праз смурод і шум.**

Акрамя акрэдытаваных незалежных журналістаў і ініцыятыўнай групы гараджан на экскурсію прыехаў цэлы дэсант з Гомеля, які хоць і першапачаткова не акрэдытоўваўся на экскурсію, але трапіў туды без праблем, хаця ў той жа самы час журналіста TUT.BY прапускаць на мерапрыемства не хацелі. І ў такой сітуацыі ў прынцыпе нічога дзіўнага, бо «гомельскі дэсант» быў прадстаўлены дзяржаўнымі газетамі ды тэлеканаламі на чале з начальніцай галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы Гомельскага аблвыканкама — Ірынай Даўгала.

Адміністрацыя завода правяла прысутных літаральна па ўсіх этапах працы завода: ад сховішчаў драўніны да цэха, дзе цэлюлозныя вырабы ўпакоўваюцца і адпраўляюцца на склад.

— Прадпрыемства знаходзіцца на балансе кампаніі САМСЭ. Але сёння там знаходзяцца нашы спецыялісты, якія навучаюцца ў працэсе пуска-наладачных працаў і пробнай вытворчасці. І, адпаведна, вядзецца выпуск таварнай прадукцыі. Немагчыма наладзіць абсталяванне без выпуску таварнай прадукцыі, — распавёў дырэктар цэлюлозна-кардоннага камбінату Юры Крук.

На працягу ўсёй экскурсіі дырэктар неаднаразова падкрэсліваў, што ў дадзены момант гэты завод у Беларусі адзіны. Да яго з'яўлення беларускія прадпрыемствы набывалі беленую цэлюлозу за мяжой. А ўвядзенне завода ў эксплуатацыю дазволіць цалкам забяспечыць айчынныя прадпрыемствы гэтай прадукцыяй.

Амаль адразу людзі пачалі задаваць пытанні:

— Мая кватэра знаходзіцца ў 300 метрах ад плота, — адзначыў жыхар вёскі Якімава Слабада. — Шум у кватэры такі ж, як і ў вас у цэху. Мінулай ноччу было ціха, а пазамінулай — нельга было спаць. Як нам жыць?

На гэтае пытанне Юрый Крук адказаў, што дадзены ўчастак не працуе ў начны час, разлічаны па праекце і працуе толькі ў дзве змены:

— Што тычыцца шуму — дадзеная вытворчасць цалкам упісваецца ў нарматывы ГДК (у дзённы час 55 дэцыбел, у начны — 45). На дадзеным участку ўзровень шуму складае 43 дэцыбелы. Як толькі вы пачуеце шум — я гатовы ў любы час прыехаць да вас і паслухаць.

Светлагарчанін Вадзім Болбас спытаў у адказ, ці існуе магчымасць усталяваць шумаадбойнікі, каб знізіць узровень шуму ўчастка.

— Шумаадбойнікі будуць зробленыя, калі ў нас будзе перавышэнне нарматываў па шуму, — патлумачыў Юрый Крук. — На сённяшні дзень, паводле той праектнай дакументацыі, якая прайшла экспертызу, генеральным падрадчыкам выкананы ўсе работы ў адпаведнасці з праектам. Калі аб'ект будзе прыняты на баланс Светлагорскага ЦКК — мы з вамі зможам сустрэцца і знайсці кампраміснае рашэнне. Але на сённяшні дзень аб'ект знаходзіцца ў кіраванні генпадрадчыка, які выконвае работы згодна з праектнай дакументацыяй, якая прайшла ўсе экспертызы. І патрабаваць сёння ў генпадрадчыка нейкія дадатковыя функцыі, не маючы на тое падставы, — гэта павелічэнне капітальных выдаткаў і павелічэнне тэрміну акупляльнасці праекта, а значыць — зніжэнне эфектыўнасці праекта. Мы разумеем вашу заклапочанасць, і мы гатовыя будзем весці дыялог і весці дадзеныя працы, калі прымем цэлюлозны завод на баланс.

Калі экскурсійны аўтобус праязджаў содарэгенерацыйны кацёл — стаў адчувальны той самы пах, які непакоіць светлагарчан і жыхароў Якімавай Слабады.

Пасля заканчэння экскурсіі грамадскія актывісты не пайшлі на сустрэчу, якая планавалася на тэрыторыі завода.

Алена Маслюкова (грамадская актывістка са Светлагорску) распавяла:

— Мы не проста так прынялі гэтае рашэнне, бо надоечы ў нас было абмеркаванне паміж дзвюма ініцыятыўнымі групамі Якімавай Слабады і Светлагорска. Справа ў тым, што калі ўлады нас запрасілі з'ездзіць на гэты завод і паглядзець, што ён з сябе ўяўляе, паўдзельнічаць у абмеркаваннях — мы напісалі ім ліст, у якім канкрэтна пазначылі асобаў, якія будуць прысутнічаць, і выставілі дзве катэгарычныя ўмовы: 1) прысутнасць незалежных СМІ; 2) дыялог на свабодным полі, бо на заводзе прапускная сістэма, і ўсе жадаючыя не могуць туды прайсці. Надоечы ў другой палове дня мы атрымалі адказ з выканкама, у якім нам было адмоўлена ў гэтым свабодным полі.

На наступны дзень у Светлагорску планавалася правядзенне флэшмобу за чыстае паветра. За некалькі гадзін да мерапрыемства Алена Маслюкова атрымала позву ў пракуратуру.

Нягледзячы ні на што, флэшмоб адбыўся, у ім прынялі ўдзел каля 200 чалавек, якія апранулі рэспіратары і адгазнікі.

— Я разумею эканамічныя выгоды ад працы гэтага завода, але даражэй — жыццё дзяцей і дарослых, якія дыхаюць смярдзючым паветрам, а пасля кашляюць, страчваюць праз гэта прытомнасць, хварэюць, — кажа Алена Маслюкова. — Мы не супраць таго, каб гэты завод зарабляў грошы, але ў яго ёсць маральныя і юрыдычныя абавязкі перад светлагорцамі. Справа ў тым, што сёння зранку я сама адчувала гэтыя смуродныя пахі. І калі дырэктар кажа, што няма смуроду, то я не магу яму верыць, бо я яго адчувала асабіста. На маё пытанне, пра тое колькі яшчэ будзе гэты смурод, Юрый Крук адказаў, што пуска-наладкавыя працы будуць цягнуцца да канца 2019 года. Дык што, мы будзем яшчэ год труціцца гэтымі газамі?

Актывісты аднеслі ў мясцовы выканкам ліст, у якім патрабуюць дазволіць правядзенне мітынгу 29 верасня:

— Мы не патрабуем зачыніць ці спыніць гэты завод. Мы людзі адэкватныя і адукаваныя і разумеем, што калі завод пабудаваны, то ён мусіць працаваць і прыносіць прыбытак. Але пры гэтым мы кажам, што гэты завод не мусіць нас атручваць. Хай зробяць так, каб у горадзе не было гэтага смуроднага паху, — кажуць жыхары Светлагорску.

# Калі перастануць адключаць улетку гарачую ваду

**Калі скончыцца эпапея з адключэннем гарачай вады ў міжацяпляльны перыяд, агенцтву «Минск-Новости» распавёў дырэктар УП «Мінсккамунцепласетка» Уладзімір Аляксандраў.**

Паводле Аляксандрава, пасля поўнай замены старых цепласетак на сучасныя папярэдне ізаляваныя (ПІ) трубаправоды, камунальнікі змогуць наогул адмовіцца ад летніх адключэнняў гарачай вады, акрамя хіба што асобных участкаў на дзень-два. ПІ-трубы могуць праслужыць 30 і больш гадоў і не маюць патрэбы ў выпрабаваннях: іх стан у рэжыме рэальнага часу адсочваецца на маніторы кампутара.

На цяперашні момант праклалі ўжо 40% такіх трубаправодаў ад агульнай колькасці.

У Мінску адмовіцца ад адключэння гарачай вады ўлетку мяркуюць праз 7–10 гадоў, пасля поўнай замены трубаправодаў на сучасныя.

На думку дырэктара «Мінсккамунцепласеткі», паколькі ў Беларусі будуецца АЭС, варта разгледзець і варыянт з ужываннем электранагрэву для атрымання гарачай вады нават на перыяд рамонту кацельных і ЦТП.

**Паводле «Радыё Свабода»**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Кадры вырашаюць усё!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**На гэтым тыдні нас шчыра здзівілі некаторыя людзі. У прынцыпе, гэта нармальна — людзі заўсёды здзіўляюць.**



Фота www. liter.kz

Шчыра здзівіў Аляксандр Лукашэнка. Тое, як ён «разагнаў урад» і пабяцаў міністра прамысловасці Воўка зрабіць альбо дырэктарам, альбо ў турму, выклікала захапленне ў тых, хто не сочыць за кадравымі перастаноўкамі. Нават украінцы ў Чарнігаве, дзе я быў неўзабаве пасля «Аршанскай бітвы», захапляліся: «Як ваш «бацька» міністраў разнёс!» Даводзілася тлумачыць, што ўсё гэта — на публіку.

Так яно, урэшце, і выйшла. Экс-міністр Воўк усплыў 18 верасня падчас кадравых прызначэнняў. І Лукашэнка паслаў яго не ў турму ці Оршу, а прызначыў на пасаду памочніка — інспектара па Віцебскай вобласці.

Гэтая пасада прыраўноўваецца да міністэрскай, а магчымасці ў інспектара яшчэ шырэйшыя. Пры прызначэнні Лукашэнка так патлумачыў свой выбар: «Я думаю, з тваім вопытам гэта нескладаная для цябе праца. І я хачу прама сказаць: усе будуць задаваць пытаннем, чаму Воўк, — мне проста шкада Воўка як кіраўніка прадпрыемства», — заявіў кіраўнік дзяржавы. Ён згадаў, што ў бытнасць Воўка дырэктарам Мінскага завода колавых цягачоў на прадпрыемства было «люба-дорага паглядзець».

Вельмі арыгінальна дараваў Воўку Лукашэнка і «недахопы» як міністра прамысловасці: маўляў, усе яны і не залежалі ад кіраўніка ведамства.

Карацей, Аляксандр Рыгоравіч у чарговы раз згуляў у «добрага цара і дрэнных баяраў». А калі іншых «баяраў» у яго няма — што ж зробіш, даводзіцца прызначаць памочнікамі тых, хто ёсць.

Праўда, аўтар палітычнай біяграфіі Лукашэнкі, палітолаг Валерый Карбалевіч лічыць, што кіраўнік Беларусі вымушаны захоўваць у дачыненні да наменклатуры пэўны баланс. З аднаго боку, патрэбныя пастаянныя рэпрэсіі супраць чыноўнікаў (інакш яны перастануць баяцца). З другога — нельга перагнуць палку, каб не пазбавіцца лаяльнасці наменклатуры. Калі чыноўнікам няма чаго губляць, то можа здарыцца наменклатурны бунт.

Карбалевіч згадвае «былых»: міністра сельскай гаспадаркі Васіля Лявонава і экс-рэктара БДУ Аляксандра Казуліна, якія пасля вызвалення ад пасадаў сышлі ў апазіцыю, а Казулін нават склаў канкурэнцыю на прэзідэнцкіх выбарах 2006 года.

Зараз на носе ў кіраўніка дзяржавы — чарговыя выбары. «А былы міністр у статусе кандыдата — гэта вам не апазіцыянер без кіруючага вопыту, гэта сур'ёзна. І яшчэ невядома, як на гэта адрэагуе наменклатура», — слушна зазначае Карбалевіч.

Так што бліжэйшым часам «добры цар» будзе не толькі караць, але і мілаваць.

У гэтым рэчышчы мы хутка пабачым на экранах яшчэ аднаго чалавека. На тэлеканале «Беларусь 2» у новым сезоне стартуе адразу некалькі сямейных шоў. Адно з іх пад назвай «Трэці лішні» будзе весці псіхатэрапеўт і гештальт-трэнер Андрэй Мяцельскі. «Героямі яго станучь звычайныя сем'і, якія сутыкнуліся з праблемай «трэцяга лішняга» ў сваім доме. На працягу трох дзён яны выконваюць нязросталыя ім заданні вядучага дзеля дасягнення выніку — міру ў сям'і», — анансуе змест кастрычніцкай перадачы БелТА.

Раней Мяцельскі каментаваў на БТ справу «Белага легіёна»: ён назваў легіянераў «нацыстамі», а пасля спрабаваў апраўдацца. Таксама ён удзельнічаў у кампраметацыі старшыні Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанны Літвіной. Па яе твару для БТ ён сцытаў: «Выказвае злосць, агіду, адрынанне і імкненне схаваць праўду». Прыкладна тое ж ён казаў і пра Уладзіміра Някляева.

Больш за ўсё пытанняў выклікаў яго каментар наконт сітуацыі з рухам #MeToo. Мяцельскі патлумачыў прычыны сэкс-скандалаў наступным чынам: «Там жанчыны ўсе вельмі непрыгожыя. Можа, гэта сапраўды парадаксальная спроба прыцягнуць да сябе ўвагу».

Але самае цікавае, паводле звестак інтэрнэту, у Мяцельскага ёсць дзеці, а ў яго профілі «УКантакце» напісана, што ён «не жанаты». Гэты чалавек будзе вучыць тэлегледачоў «міру ў сям'і»? Ці гэта своеасаблівая «падзяка» за ранейшыя паслугі?

Яшчэ адзін цікавы чалавек тыдня, безумоўна, — міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч. Па яго словах, на маючых адбыцца ў Беларусі буйных спартыўных падзеях — Еўрапейскіх гульнях 2019 года і Чэмпіянаце свету па хакеі, які пройдзе ў Беларусі і Латвіі ў 2021 годзе, — будуць задзейнічаныя расійская паліцэйскія. «Расійскія калегі з Міністэрства ўнутраных спраў дэлегуюць нам сваіх супрацоўнікаў на час правядзення II Еўрапейскіх гульняў і Чэмпіянату свету па хакеі. Гэта, безумоўна, павысіць эфектыўнасць прымаемых мер па забеспячэнні грамадскага парадку», — заявіў Шуневіч.

Што б гэта азначала? Падаецца, мы выдатна справіліся з такім жа Чэмпіянатам свету 2014 года. Тым больш, што, паводле дадзеных ААН, мы ці не першыя ў свеце па колькасці праваахоўнікаў — 1442 міліцыянты на 100 тысяч насельніцтва. Навошта нам у Сінявокай славікі чужой краіны? Каб гэта быў «абмен досведам у межах Саюзнай дзяржавы» — дык кіраўнік МУС такога не казаў...

Прычым заява Шуневіча вельмі цікавая ў іншым кантэксце. Ананімны расійскі тэлеграм-канал «Незыгарь», які спецыялізуецца на, так бы мовіць, «персанальнай» палітычнай аналітыцы па краінах СНД, парадаваў нас новым «выдатным інсайдам» па беларускай праблематыцы. Згодна яму, 21 верасня Лукашэнку чакаюць у Сочы (што не навіна). Там запланавана сустрэча кіраўнікоў Расіі і Беларусі з удзелам прэм'ер-міністраў і віцэ-прэм'ераў краін. Але, па інфармацыі канала, беларускі кіраўнік падчас на гэтай сустрэчы паведаміць Пуціну імя свайго пераемніка. «Далейшае яго знаходжанне (ва ўладзе), як і працяг сямейнай дынастыі, адкінулі», — піша «Незыгарь».

«Незыгарь», які мае 175 тысяч падпісчыкаў, не першы месяц вядзе інфармацыйную атаку як на беларускія ўлады, так і на беларускае грамадства. Ён паведаміў нібыта пра інсульт Луккашэнкі, а таксама пра тое, што Румас мае намер цалкам выкараніць рускую мову ў рабоце ўрада. «Чытаючы такія «інсайды», толькі і хочацца, што пакруціць пальцам ля скроні», — піша «Наша Ніва».

Але жыццё тым і адрозніваецца ад вымыслу, што ідзе не па напісаным сцэнары, і ў ім магчымыя самыя вар'яцкія рэчы. Улічваючы, што 2019–2020 гады ў нас — гады парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў, ці не будуць расійскія паліцэйскія «гарантаваць перадачу ўлады» таму, каго, згодна «Незыгарю», вызначыць Пуцін?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Дзмітрый Паліенка

**Палітвязню за месяц да вызвалення забаранілі спатканне з бацькам.**

«24 кастрычніка Зміцер павінен выйсці на свабоду, але цяпер адбываюцца нейкія незразумелыя рэчы», — распавёў бацька Дзмітрыя Аляксандр Паліенка сайту palitviazni.info.

«Я павінен быў ехаць на спатканне яшчэ ў пачатку месяца, але падчас тэлефаннай размовы сын сказаў, што нешта там не складваецца, таму было вырашана, што прыеду 25 верасня на доўгатэрміновае спатканне», — сказаў ён. Як высветлілася, гэтае спатканне таксама не адбудзецца. «Днямі адміністрацыя калоніі зрабіла ў яго рэчах шмон: забралі ўсе лісты, паштоўкі і ручкі, лісты, якія ён хацеў высылаць, у тым ліку запісы з тэлефонамі родных», — паведаміла сяброўка Дзмітрыя Марына Насенка. І на падставе таго, што гэтыя рэчы «не адпавядаюць спісу», яму адмянілі спатканне з бацькам.

Дзмітрый Паліенка быў затрыманы за ўдзел у мірным сходзе «Крытычная маса», і 12 кастрычніка 2016 года асуджаны да двух гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання пакарання на два гады за гвалт у дачыненні супрацоўніка міліцыі. За ўдзел у абароне Курапатаў 7 красавіка 2017 года адтэрміноўка выканання пакарання была адмененая, і ён быў адпраўлены ў выпраўленчую калонію на 1,5 года (з улікам часу ўтрымання пад вартай да суда ў 2016 годзе).

## Аляксандра Герасіменя

**Вядомая беларуская плыўчыха, трохразовая прызёрка Алімпійскіх гульняў Аляксандра Герасіменя нарадзіла дачку. Дзяўчынку (53 см, 3600 г) назвалі Сафіяй.**



Мужам Герасімені з'яўляецца беларускі плывец Яўген Цуркін.

Нагадаем, што раней з-за цяжарнасці Герасіменя адмовілася выступіць на першынстве Еўропы. «Марыла пра тое, каб стаць маці, хоць яшчэ некаторы час таму я не была ўпэўненая, што гэта здарыцца так хутка», — пісала яна.

Кропку ў кар'еры Герасіменя ставіць не збіраецца. «У плаванні ў мяне застаецца незавершаная справа — перамога на Алімпійскіх гульнях. Іншыя вяршыні мне скарыліся, а гэтая — нібы чарвяк, маё сэрца точыць. Можа, у наступны раз у мяне атрымаецца? Прыклад Дашы Домрачавай, якая пасля нараджэння дачкі здолела ў чацвёрты раз стаць алімпійскай чэмпіёнкай, натхняе. Сапраўды гэтак жа, як і поспехі плыўчыхі Дары Торэс. Дару пасля родаў выйграла тры срэбры на Алімпіядзе–2008. Срэбра ў мяне ёсць, а хочацца залаты медаль. І ўжо калі вяртацца ў спорт, то рабіць гэта трэба так, каб быць гатовай да Алімпіяды 2020 года ў Токіё», — казала Герасіменя.



## Алег Гайдукевіч

**Першы намеснік старшыні Ліберальна-дэмакратычнай партыя Беларусі не супраць стаць прэзідэнтам.**

Алег Гайдукевіч, які з'яўляецца сынам старшыні партыі Сяргея Гайдукевіча, сказаў, што «гатовы і буду прасіць партыю вылучыць кандыдатам у прэзідэнты менавіта мяне». «Канчатковае рашэнне будзе прынята на наступным з'ездзе, які мы плануем правесці ў чэрвені альбо ліпені 2019 года», — паведаміў ён.

Пры гэтым Алег Гайдукевіч сказаў, што адзін момант яго крыху бянтэжыць: ён не з'яўляецца старшынёй партыі, а хацелася б, каб балатаваўся з прэзідэнты менавіта старшыня. Таму, як лічыць Алег Гайдукевіч, на з'ездзе будзе абноўленае кіраўніцтва партыі.

Але ёсць вельмі цікавы факт. Алег Гайдукевіч кажа, што ЛДПБ — сістэмная патрыятычная, канструктыўная і апазіцыйная палітсіла. І ў той жа час мяркуе, што найлепшым кандыдатам ад апазіцыі была б Ганна Канапацкая. «Яна ж стала дэпутатам! Дык вылучайце яе кандыдатам у прэзідэнты. А тое Правацэнтрысцкая кааліцыя шукае кандыдата — навошта яго шукаць, калі ён ужо ёсць?» — ацаніў сітуацыю Гайдукевіч-малодшы.

Ці здыме «апазіцыянер» Алег Гайдукевіч сваю кандыдатуру на карысць апазіцыянеркі Канапацкай — не паведамлялася.

а | Азбука паліталогіі

# Усё на кантролі

**Пры пошуку залатой сярэдзіны паміж свабодай і прымусам аўтар «беларускай мадэлі» аддае перавагу прымусу.**



Сяргей НІКАЛЮК




У інтэрв'ю газеце «Завтра» экс-савецкі дысідэнт і філосаф Аляксандр Зіноўеў эканамічныя поспехі Захаду патлумачыў наступны чынам: «Эфектыўнасць заходняй гаспадаркі абумоўліваюць тры законы: рацыянальная арганізацыя справы; жорсткая працоўная дысцыпліна; максімальнае выкарыстанне сродкаў вытворчасці і рабочай сілы. Заходняе грамадства з'яўляецца недэмакратычным, таталітарным у самой сваёй аснове — на ўзроўні ячэек вытворчасці. І менавіта таму яно дэмакратычнае ў надбудове, ідэалогіі. Тут дзейнічае свайго роду закон пастаянства сумы дэмакратызму і таталітарызму».

Думаю, пад такім тлумачэннем без ваганняў падпісаўся б адзіны палітык (АП), які па сумяшчальніцтве — галоўны архітэктар «беларускай мадэлі».

Хіба ён не дэманструе найвышэйшы ўзровень рацыянальнасці, калі супрацьпастаўляе «нябачнай руцэ рынку» сваю ўладную кіраўнічую «вертыкаль», якую можна пабачыць і без спецыяльных аптычных прыбораў.

Што тычыцца жорсткасці працоўнай дысцыпліны, дык размовы пра яе без ужывання прыметніка найвышэйшай ступені «жэстачайшы» ў нас і не вядуцца. Справа дайшла да ўнясення дысцыпліны ў шорт-ліст фактараў, на якіх непасрэдна грунтуецца наша незалежнасць. Для тых, хто сумняваецца, прыводжу адпаведную цытату: «Патрэбны вынік, патрэбна дысцыпліна. Гэта фактары нашай незалежнасці. Таму што ад гэтага залежыць развіццё эканомікі. Самае страшнае, за што мы павінны «баяцца», — гэта эканоміка. Іншых праблем у нашым грамадстве няма. Усё астатняе мы трымаем жорстка на кантролі» (31 жніўня 2018 года).

Нам яшчэ ёсць чаму вучыцца ў заходніх дэмакратый у пытаннях выкарыстання сродкаў вытворчасці і рабочай сілы. Успомнім дах, які працякае, і падлогу, багата пасыпаную пілавіннем, у асірацелых цэхах Аршанскага інструментальнага завода. Але міністраў, у тым ліку прэм'ера, памянялі? Памянялі. А гэта рэальны шанец не толькі адрамантаваць дах, але і замяніць абсталяванне яшчэ савецкай вытворчасці на сучаснае і, магчыма, нават на імпартнае.

Не першы год вядзецца ў нашай краіне і мэтанакіраваная барацьба за 100-працэнтнае выкарыстанне рабочай сілы. У народзе яе ахрысцілі «барацьбой з дармаедамі». Нібы марскія хвалі, дэкрэт накатваецца на дэкрэт, але вынік пакуль не бачны. Але гэта пакуль.

### Раток на замочак, рукі на каленкі

Пра тое, каб «дагнаць і перагнаць Амерыку» на працягу 73 гадоў марылі ўсе савецкія кіраўнікі. З улікам спецыфікі часу, яны дзейнічалі паводле схемы Аляксандра Зіноўева, і выкарыстоўвалі пры гэтым максімум з даступных ім сродкаў. Аднак разрыў не толькі не скарачаўся, але, наадварот, павялічваўся. Справа дайшла да таго, што сфармуляваны яшчэ правадыром сусветнага пралетарыяту лозунг страціў сваю актуальнасць.

Чаму так атрымалася? Няўжо няглядзячы на грозныя вокрыкі, на практыцы гайкі пастаянна недакручваюцца?

Я паспрабую адказаць на гэта пытанне з дапамогай цытаты, запазычанай з лекцыі дзіцячага псіхолага Юліі Гіпенрэйтар: «Я прыйшла ў Амерыцы на ўрок матэматыкі. Пяты клас. Адзін настаўнік, прыкладна 25 вучняў па класе рассеяныя, нехта сядзіць за партай, хтосьці — на падлозе групкамі, два-тры дзіця стаяць каля дошкі, штосьці адзін аднаму тлумачаць, вырашаюць. То бок, поўная свабода цялесна-прасторавай арганізацыі — і ніякага хуліганства. Няма ўсяго гэтага: стройнымі шэрагамі сядзець па струнцы».

Як сыну вайскоўца, мне давялося вучыцца ў чатырох школах (ад сельскай да сталічнай), але ўявіць вучняў, што сядзяць у час урока на падлозе, я не магу. Варта падкрэсліць прычыну такой неардынарнай цялесна-прасторавай арганізацыі ўрока. Вучням так было зручней …працаваць. Ні пра якое хуліганства або непаслушэнства пры гэтым не ішло і гаворкі.

Які кантраст з савецкай і постсавецкай школамі! Але школа — гэта прамежкавы этап у фарміраванні савецкага і постсавецкага чалавека. На памяць пра перыяд дзіцячага садка ў маіх дзяцей у сямейным фальклоры засталася фраза: «Раток на замочак, рукі на каленкі». Сэнс яе, «ідучы ад жыцця», паслядоўна асвойвалі дочкі і сын.

Але вернемся да лекцыі Гіпенрэйтар: «Я думаю, што выхаванне ў канчатковым выніку ўпіраецца ў праблему, якую на мове філасофіі можна сфармуляваць як «свабода альбо прымус», ці «свабода або кантроль», ці «ініцыятыва або забароны, абмежаванні».

Пошукам «залатой сярэдзіны» чалавецтва займаецца з часоў першай у сваёй гісторыі рэвалюцыі (неалітычнай), падчас якой быў ажыццёўлены пераход ад палявання і збіральніцтва да прадукцыйнай эканомікі (земляробства і жывёлагадоўлі).

Пасля такога ўступу нескладана зразумець галоўнае адрозненне «беларускай мадэлі» ад яе больш паспяховых канкурэнтаў. Яна выбудаваная з перакосам у бок прымусу, кантролю і забаронаў. Працаваць са свабоднымі людзьмі яна не ўмее і не хоча.

### Паміж «акном магчымасцяў» і хаосам безуладдзя

Зафіксаваны вышэй перакос не варта разглядаць у якасці беларускага ноў-хаў. На працягу тысячагоддзяў права на прымус, кантроль і забароны выступала ў якасці сістэмаўтваральнага элемента ўлады. Так працягвалася да Новага часу, да першай прамысловай рэвалюцыі, старт якой быў дадзены на мяжы XVIII і XIX стагоддзяў.

Рухаючай сілай прамысловай рэвалюцыі выступіў сацыякультурны тып чалавека, які сёння прынята называць «асобай». Яго крытычная маса і забяспечыла пераход ад статыкі Сярэднявечча да сучаснай дынамікі. Падмацую сказанае цытатай АП, запазычанай з Паслання–2013: «Сучасная цывілізацыя — гэта цывілізацыя

**Калі ўлада стала на шлях да аўтарытарызму, дык не змагла спыніцца. Размовы пра пераходны перыяд, які патрабуецца для асваення каштоўнасцяў дэмакратыі і рынку, — на карысць бедных. На справе ідзе зваротны працэс**

пастаяннага паскарэння. Яно адчуваецца паўсюдна — не толькі ў хуткасці з'яўлення новых ідэй, але і ў тэхналогіях, у эканоміцы, у гандлі, у адукацыі, у сродках масавай інфармацыі, у палітыцы, нават у паўсядзённым побыце людзей».

Залатыя словы! Іх бы ўставіць у вушы таму, хто іх зачытаў па паперцы ў Авальнай зале. Зачытаў — і забыўся. Забыўся — і звярнуўся да звыклай тройцы: прымусу, кантролю і забаронаў, спадзеючыся з іх дапамогай адказаць на сучасныя выклікі, у тым ліку і на выклікі пастаяннага паскарэння. Усё лагічна. Улада шукае крыніцы паскарэння не там, дзе іх страціла, а пад ліхтарам, дзе святлей.

АП любіць разважаць пра свабоду, але неяк абстрактна і, як правіла, у звязе з незалежнасцю. Напрыклад, вось так: «Мы ведаем цану свабоды і незалежнасці. Таму так далікатна ставімся да гісторыі, так дбайна адстойваем прынцыпы справядлівасці, сумленнасці і роўнасці».

З такой бы далікатнасцю ставіцца да беларусаў, якія адчуваюць патрэбу ў свабодзе. Дзякуючы іх намаганням і расла эканоміка ў «тлустыя» гады. У Перабудове яны ўбачылі «акно магчымасцяў», чым і паспяшаліся скарыстацца.

На жаль, тое, што стала «акном магчымасцяў» для адных, для іншых абярнулася хаосам безуладдзя. Чалавек, які не адчувае патрэбы ў свабодзе, не можа быць адказным ні за сябе, ні за тое, што адбываецца. Таму з такой прастатой ён і перадаў у 1994 годзе адказнасць за прынццэ рашэннях уладзе.

За ўладай не заржавела. Калі яна стала на першую прыступку лесвіцы, што вядзе ў балота аўтарытарызму, дык не змагла спыніцца. Усе размовы пра пераходны перыяд, які нібыта патрабуецца для асваення каштоўнасцяў дэмакратыі і рынку, — гэта размовы на карысць бедных. На справе ідзе зваротны працэс.

Афіцыйная статыстыка яго пераканаўча фіксуе. Колькі, напрыклад, за апошнія гады было сказана словаў у падтрымкі малога бізнесу, колькі прынята дакументаў! Але сабака брэша, а караван аўтарытарызму ідзе. З 2010 года працэнт даходаў ад прадпрымальніцкай дзейнасці ў структуры грашовых даходаў насельніцтва знізіўся з 21,6% да 10,2%. І гэта ў краіне, у якой, паводле прызнання АП: «Усё астатняе (акрамя дысцыпліны. — С.Н.) мы трымаем жорстка на кантролі».

### Счарнелае «фамільнае срэбра»

Нагадаю, што, згодна з Зіноўевым, эфектыўнасць заходняй эканомікі абумоўленая ў тым ліку жорсткай працоўнай дысцыплінай. Але гэта дысцыпліна асаблівага сацыякультурнага тыпу людзей, якія прызвычаіліся сядзець на падлозе падчас урокаў. Вынікам такой дысцыпліны з'яўляецца паток інавацый, які забяспечвае нябачаную ў гісторыі эканамічную дынаміку.

Яе наглядна ілюструе сярэдні тэрмін, які амерыканскія кампаніі праводзяць у спісе «Fortune-500». У 1964 годзе ён складаў 33 гады, у 2016-м — 24 гады, а, паводле прагнозаў, да 2027-га паменшыцца да 12 гадоў.

У 1987 годзе рынкавы кошт кампаніі IBM — першай у свеце — перавысіў адзнаку ў $ 100 мільярдаў. Але хто з чытачоў НЧ за апошні год сутыкаўся з інфармацыяй пра яе распрацоўкі? Упэўнены, што калі такія і былі, дык у гомеапатычных колькасцях.

Паводле прагнозаў спецыялістаў, праз пяць гадоў спіс часопіса «Fortune» будзе на 75% складацца з кампаній, пра якія сёння шырокая публіка практычна нічога не ведае. Што да Беларусі, то ў спісе добра пачарнелага «фамільнага срэбра» папаўненне не прадбачыцца. За адным выключэннем, мабыць, — АЭС, пра якую АП (паводле яго ўласнага прызнання) «да гэтага часу выразна ніхто не далажыў, як станцыя будзе ўбудавана ў эканоміку краіны».

# Вейшнорыя: дэмакратыя «на каленцы»

Сяргей ПУЛЬША

**Адному з цікавых беларускіх інтэрнэт-праектаў — Рэспубліцы Вейшнорыя — споўніўся год. 21 верасня віртуальная краіна святкуе перамогу ў «сямідзённай вайне», — у час вайсковых вучэнняў «Захад–2017» у Беларусі.**

Нагадаем, што і сама краіна ўзнікла з ідэі гэтых вучэнняў, прыдуманых вайскоўцамі. Назву «Вейшнорыя» атрымала частка тэрыторыі Беларусі на захадзе краіны. Паводле сюжэту вучэнняў, суседнія «Весбарыя» і «Лубенія» дэстабілізуюць становішча Вейшнорыі, а войскі Расіі і Беларусі прыводзяць усё да ладу.

Грамадзяне Беларусі моцна абурыліся тым, што частку рэспублікі вайскоўцы абвясцілі «сепаратыстамі». За лічаныя гадзіны пасля раскрыцця ідэі вучэнняў у Вейшнорыі з'явіліся герб, сцяг і Міністэрства замежных спраў. Надалей узніклі пашпарты Вейшнорыі, грамадзянства краіны, грошы і аж тры сталіцы — фактычная, адміністрацыйная і культурная (Гродна, Ліда, Смаргонь).

Што тычыцца «сямідзённай вайны», то Вейшнорыя прыпісала сабе перамогу з-за шматлікіх эксцэсаў падчас тых вучэнняў. У той час у ДТЗ трапіў камандуючы Паветрана-дэсантнымі войскамі Расіі генерал-палкоўнік Андрэй Сердзюкоў і яго намеснік па паветрана-дэсантнай падрыхтоўцы генерал-маёр Уладзімір Качаткоў. У выніку несанкцыянаванага пуску ракеты з расійскага верталёта былі паранены некалькі журналістаў (казалі пра трох чалавек) і знішчаная машына кіравання беспілотнікамі комплексу РБ-341В «Леер-3». Таксама нечакана на вучэннях стрэліў танк — ён трапіў баявым снарадам у аддзяленне сапёраў, адзін з якіх загінуў. Стратэгічны бамбавік Ту-22М3 на авіябазе Шайкаўка (Калужская вобласць) выкаціўся са ўзлётнай паласы — і ўзнаўленню не падлягаў. Вучэбна-баявы самалёт ЯК-130 разбіўся паблізу аэрадрома Барысаглебск у Варонежскай вобласці.

Вейшнорыя не згубіла ніводнага чалавека ці адзінкі тэхнікі.

Адсвяткаваўшы перамогу, грамадзяне Вейшнорыі не разбегліся, як гэтага можна было чакаць. Да канца вучэнняў «Захад–2017» вейшнорцамі запісаліся каля 15 тысяч чалавек. Узнікла ідэя працягнуць гэтую гульню.

Што такое Вейшнорыя зараз, і які ў яе працяг? Пра гэта НЧ распавядае адзін са стваральнікаў праекту, былы дэпутат Сойму інтэрнэт-краіны Аляксандр Лыкшын.

— Глабальная мэта Вейшнорыі — пабудаваць ідэальную дзяржаву, краіну мары. У выпадку Вейшнорыі хайп ператвараецца ў ідэю — ці можна пабудаваць «дзяржаву мары» ў інтэрнэце альбо гэтая задача абсалютна нерэальная? Спробы працягваюцца, народ і цяпер у гэтым удзельнічае, бо лічыць гэта мэтазгодным. Інакш бы праект загнуўся, як і любы хайп, які загінаецца праз тыдзень пасля таго, як ён скончыўся.

На хвалі энтузіязму год таму былі праведзеныя выбары ў Сойм Вейшнорыі. У іх удзельнічала адносна багата людзей. Асобы, абраныя дэпутатамі, напэўна, адчувалі нейкую адказнасць перад выбаршчыкамі за тое, каб надалей удзельнічаць у працэсе. Такім чынам сфармавалася грамада, якая сочыць за зменамі праекта, прапануе гэтыя змены, удзельнічае ў іх.

Зараз у Вейшнорыі адбываюцца ўжо другія выбары ў Сойм. І мы, як тэхнічная арганізацыя платформы, бачым задачу, каб змадэляваць працэс выбараў такім чынам, калі ўсе выбарчыя працэдуры празрыстыя і зразумелыя для ўсіх удзельнікаў выбараў.



**Аляксандр Лыкшын:**

**«Глабальная мэта Вейшнорыі — пабудаваць ідэальную дзяржаву, краіну мары»**

Выбары адыгрываюць ключавую ролю. У Рэспубліцы Беларусь толькі прэзідэнцкія выбары 1994 года можна назваць сапраўды свабоднымі і легітымнымі. З тых, хто ўдзельнічаў у тых выбарах, засталася хіба траціна насельніцтва. Інтэрнэтам у Беларусі карыстаюцца дзве траціны грамадзян. Атрымліваецца, што з карыстальнікаў інтэрнэту толькі 10–15% удзельнічалі ў сапраўдных несфальсіфікаваных выбарах. Астатнія 85% у нармальных выбарах не ўдзельнічалі ўвогуле ані разу! Таму грамадская мэта Вейшнорыі — паказаць, якімі могуць быць празрыстыя выбары. Калі вылучаюцца дэлегаты, прэзентуюць свае праграмы і атрымліваюць галасы на падставе гэтых праграм, на грунце таго, што яны прапануюць.

Мэта — навучыць людзей выбіраць, а абраным — даць досвед працы ў камандзе. Таму што абрацца — палова справы, трэба і далей працаваць. У прынцыпе, гэтак і ў звычайнай палітыцы: калі ты абраўся, далёка не факт, што ты будзеш добрым дэпутатам і сыдзеш са знакам «плюс».

***— А дэпутаты першага Сойму Вейшнорыі далі справаздачу перад выбаршчыкамі? Што было зроблена за год працы?***

— Галоўнае, што яны зрабілі, — прынялі Канстытуцыю Вейшнорыі, якая прыбрала ўсе жахі і асцярогі наконт краіны. Напрыклад, некаторыя лічылі, што Вейшнорыя можа трансфармавацца ў падабенства так званых «ЛНР-ДНР». У Канстытуцыі замацаваная экстэрытарыяльнасць Вейшнорыі і асноўныя палажэнні віртуальнай краіны. Былі прынятыя іншыя палажэнні і законы, якія абмалёўваюць, як у прынцыпе можа выглядаць краіна будучыні.

Калі мы стваралі платформу анлайн-дэмакратыі, у нас не было прыкладаў, адкуль можна было б што-небудзь узяць. Усё прыдумвалася «на каленцы» самімі ўдзельнікамі праекту. Зразумела, былі памылкі, былі правалы, якія можна ўлічыць пры наступнай працы Сойму, што і будзе зроблена. Тое ж тычыцца і працэсу выбараў. Першыя выбары праходзілі ва ўмовах нулявой заканадаўчай базы. Зараз супольнасць ужо выпрацавала правілы гульні: як гэта павінна праходзіць, што рабіць і як працаваць. Другі Сойм будзе гуляць ужо паводле пэўны правілаў.

***— Год дэпутацтва — ці не замала?***

— Як паказала практыка, для інтэрнэт-праекту гэтага дастаткова. Дэпутаты першага Сойму Вейшнорыі абіраліся на хвалі хайпу, і працэс гэты таксама праходзіў на хвалі хайпу. Тыя, хто балатуецца ў Сойм зараз, робяць гэта больш асэнсавана, і таму ёсць верагоднасць, што праект віртуальнай дзяржавы будзе больш грамадска і палітычна актыўнейшым.

***— Напачатку гэтага года «цацачнай» Вейшнорыі перайшлі паўнамоцтвы па развіцці зусім не цацачных грошай — беларускай крыптавалюты «талер». Ці моцна гэта дапамагло як Вейшнорыі, так і талеру?***

— Гэтае пытанне трэба падзяліць на дзве часткі. Па-першае, не ва ўсіх вейшнорцаў быў досвед працы з крыптавалютамі. Нават у дэпутатаў Сойма. Талерам цікавіліся ў асноўным аналітыкі, трэйдары, эканамісты — тыя, хто разумеў, з чым гэтыя крыпавалюты ядуць. Па-другое, пасля новага года сцішыўся і хайп вакол крыптавалютаў — у выніку чаго біткойн, напрыклад, упаў у кошце ў тры-чатыры разы. Адпаведна, гэта тычыцца ўсіх крыптавалютаў.






Галоўнае, што адбылося, — стваральнікі талера перадалі прэмайн (то бок, пэўную колькасць загадзя намайненых талераў) для далейшага пераразмеркавання. Мы, адміністратары, гэтыя талеры перадаём дэпутатам. І дэпутаты ўжо вырашаюць, як размеркаваць гэтыя прэмайн далей. То бок, у краіны з'явіўся бюджэт.

***— Калі талер перайшоў Вейшнорыі, было багата размоў пра тое, што мясцовыя лакальныя ініцыятывы могуць скарыстаць талер для «ўнутраных разлікаў» паміж сабою. Гэтая ідэя рэалізуецца?***

— На жаль, я пра такое не ведаю. Можа быць, нехта проста не стварае такія ініцыятывы, таму мы не сачылі за размеркаваннем. Зноў жа, каму і колькі талераў выдаць, вырашаюць дэпутаты. Насамрэч, штодня ажыццяўляецца транзакцый на 50–70 тысяч талераў. Зразумела, не ўсё гэта робіцца праз Вейшнорыю, але і нельга сказаць, што талер «мёртвы».

***— Таксама быў варыянт, што Вейшнорыя паспрыяе аб'яднанню людзей у лакальныя ініцыятывы. Што праз сайт людзі будуць знаходзіць аднадумцаў, і разам вырашаць нейкія мясцовыя праблемы…***

— Гэта, зноў жа, на сумленні саміх вейшнорцаў. Я ведаю, што былі афлайн-сустрэчы. У Кіеве атрад грамадзян Вейшнорыі рэгулярна ўдзельнічае ў трэніроўках рэгіянальнай абароны — са сцягам Вейшнорыі, з нашыўкамі і гэтак далей.

***— На тваю думку, будучыня ў Вейшнорыі — ці ёсць яна? І якая?***

— Усё залежыць ад грамадзян Вейшнорыі. Наша праца — стварыць пляцоўку. Калі людзі будуць зацікаўленыя, праект будзе развівацца. Грамадзянства Вейшнорыі можна атрымаць дагэтуль: кожны, хто жадае далучыцца, за невялічкую аплату можа стаць удзельнікам цікавага праекта ў сучасным свеце. Насамрэч, такіх рэчаў не вельмі шмат, і недзе нават праскоквала інфармацыя, што Вейшнорыя стала адной з найбуйнейшых мікранацый за ўсю гісторыю інтэрнэту. Так што гэта праект для людзей, якім цікавая палітыка, грамадская дзейнасць і ўвогуле жыццё навокал.

***— За невялічкую аплату?***

— Гэта кошт пашпарту, ID-карткі вейшнорца. Можна прымаць удзел і без такога пашпарту, але тады ўдзельнік будзе абмежаваны ў некаторых правах — у прыватнасці, удзеле ў выбарах. Як, у прынцыпе, і ў Беларусі, і ў іншых краінах — у выбарах удзельнічаюць тыя, хто мае дакумент, пашпарт.

Зараз завяршаецца вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты II Сойму Вейшнорыі. Потым месяц — перадвыбарчая агітацыя, калі кандыдаты будуць прасоўваць свае праграмы. Потым — два тыдні галасавання. Пасля на працягу месяца Сойм пачне працу — і будзе бачна, куды праект ідзе далей.

Пакуль што няма ніводнай прычыны, па якой праект Вейшнорыі мог бы спыніць існаванне. Усё больш людзей у ім удзельнічае, і выкрышталёўваецца ідэя, як гэта павінна выглядаць.

***— Ці ёсць варыянты, што гэтая праца на віртуальную будучыню віртуальнай краіны пяройдзе ў рэал?***

— Гледзячы, што лічыць рэалам. Дэпутаты Сойму Вейшнорыі стасаваліся не толькі праз інтэрнэт. Яны сустракаліся ў Мінску, Кіеве, Чарнігаве… Афлайнавыя сустрэчы адбываліся пастаянна — з размовамі пра будучыню Вейшнорыі, і гэтак далей.

Насамрэч, усё залежыць ад канкрэтных асобаў. Калі дэпутаты вырашаць, што ім трэба дадатковая афлайн-актыўнасць — калі ласка. Калі вейшнорац вырашыць стаць дэпутатам беларускага парламента ці мясцовых Саветаў — перашкаджаць ніхто не будзе.

***P.S.** Цікава, што чытачы НЧ думаюць пра праект «Вейшнорыя»?*



**Адзін з буйных гарадоў рэспублікі быў абраны ў якасці своеасаблівага выпрабавальнага палігона для рынкавых рэформаў. А добраахвотны сыход Карпенкі і Ганчара на гарадскую гаспадарку быў першым у тыя часы прэцэдэнтам**

# Горад Сонца Генадзя Карпенкі

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**У Маладзечне 23 красавіка 1991 года адбылася незвычайная сесія гарадскога Савета народных дэпутатаў. У парадку дня стаялі два ключавыя пытанні: абранне старшыні выканкама і яго намеснікаў.**

На пасаду былі вылучаны дзве кандыдатуры: Генадзь Карпенка, доктар тэхнічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР 1986 года, народны дэпутат, старшыня камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі 12 склікання па навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе, і Аляксей Выбарнаў, дзейны старшыня выканкаму гарсавета. Апошняга, дарэчы, падтрымаў старшыня абласнога Савета народных дэпутатаў Альфонс Цішкевіч.

Адносна кожнага прэтэндэнта выступілі чатыры мясцовых дэпутаты: два — «за» і два — «супраць». Выбарнаў і Карпенка коратка абмалявалі свае праграмы і сваё бачанне развіцця Маладзечна і рэгіёна. Тэзісы Карпенкі падаліся больш пераканаўчымі: яго кандыдатуру падтрымаў 61 дэпутат са 111, што ўзялі ўдзел у галасаванні. За Выбарнава прагаласавалі 45 дэпутатаў.

26 красавіка 1991 года быў абраны першы намеснік Карпенкі. Гэта быў вядомы дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі 12 склікання Віктар Ганчар. На думку Карпенкі, кандыдатура Ганчара была больш удалая (Ганчара падтрымалі 93 дэпутаты): ён, выдатны юрыст, як ніхто іншы будзе карысным пры разглядзе пытанняў раздзяржаўлення і прыватызацыі, а таксама знешнеэканамічных аспектаў. Акрамя таго, лічыў Карпенка, Ганчар можа пасадзейнічаць адкрыццю ў Маладзечне філіяла аднаго з рэспубліканскіх ВНУ, што вельмі важна ва ўмовах новых эканамічных адносін і рынка працы.

Сам Ганчар заявіў, што разумее сітуацыю, калі запрашаюць чалавека збоку, таму паабяцаў «закасаць рукавы і працаваць».

Такім чынам, у Маладзечна з'явіліся новыя кіраўнікі. Адзін з буйных гарадоў рэспублікі быў абраны ў якасці своеасаблівага выпрабавальнага палігона для рынкавых рэформаў. Карпенка некалькі гадоў быў дырэктарам мясцовага завода парашковай металургіі і таму ведаў горад не па чутках.

Да таго ж добраахвотны сыход Карпенкі і Ганчара на гарадскую гаспадарку быў першым у тыя часы прэцэдэнтам.

«Маладзечанскі перыяд» — амаль недаследаваная тэма ў палітычнай біяграфіі Генадзя Дзмітрыевіча Карпенкі, якому 17 верасня споўнілася б 69 год.

### Навошта гэта трэба?

Неўзабаве пасля прызначэння Карпенка і Ганчар далі разгорнутае інтэрв'ю «Звяздзе», дзе патлумачылі прычыну свайго прыходу на працу ў рэгіён. Ганчар заявіў, што пры сённяшняй сітуацыі (скрыўленасць мыслення, інертнасць апарату і інш.) абсалютна немагчыма правесці комплексную рэформу. Адзінае выйсце, на думку Ганчара, — апрабаванне рынкавага эксперыменту ў асобна ўзятым горадзе і далейшы яго распаўсюд па ўсёй тэрыторыі рэспублікі. Ганчара падтрымаў Карпенка, які заявіў, што Маладзечна з яго эканамічным патэнцыялам цалкам пасуе ў якасці рэгіёна для эканамічнай навізны. Карпенка акрэсліў жыццёвыя праблемы горада: дэфіцыт харчовых і прамысловых тавараў, нізкая эфектыўнасць размеркавальнай сістэмы, адсутнасць грошай і вялікі дэфіцыт гарадскога бюджэту, незабяспечанасць жыллём, даўгабуды, ЖКГ, занядбаная інфраструктура (асабліва дарогі).

На думку Карпенкі, адзіным выйсцем з гэтага стану з'яўляецца выкарыстанне патэнцыялу камерцыйных структураў, новых тэхналогій, прыцягненне маладых спецыялістаў з прагрэсіўным мысленнем.

Генадзь Карпенка агучыў дэвіз новай каманды Маладзечна: навуковая абгрунтаванасць і асабістая адказнасць плюс пэўны элемент рызыкі. Калі думаць толькі пра бяспеку і запасную пляцоўку, лічыў Карпенка, то за справу ўвогуле не трэба брацца.

### Кадры вырашаюць усё

Карпенка, калі стаў на чале выканкаму, адразу рашуча прыступіў да яго рэарганізацыі. Па-першае, быў ліквідаваны прэзідыум як абсалютна непатрэбны орган. Па-другое, былі максімальна дакладна размеркаваныя службовыя абавязкі намеснікаў. Так, непасрэднае добраўпарадкаванне горада (дарогі, азеляненне, ЖКГ і інш.) было ўскладзена на аднаго з намеснікаў Карпенкі — Станіслава Татарыновіча. Па-трэцяе, па ініцыятыве Карпенкі ўсе чальцы выканкаму былі пераведзены на кантракты.

Карпенка імкнуўся напоўніць сваю каманду сапраўднымі прафесіяналамі. У траўні 1992 года маладзечанскую міліцыю ўзначаліў дэпутат Вярхоўнага Савета 12 склікання Уладзімір Станкевіч. У першым інтэрв'ю Станкевіч заявіў, што цалкам падзяляе палітычныя і грамадскія погляды Карпенкі, таму ва ўзаемаадносінах праблем не будзе. Неўзабаве кіраўніком справамі гарвыканкама стаў прыхільнік БЗВ, чэкіст Валерый Костка.

У кастрычніку 1993 года Костка ўзначаліў створаны пры гарвыканкаме спецыяльны прэс-цэнтр — для своечасовай і аб'ектыўнай падачы інфармацыі і абмеркавання важных пытанняў горада.

### З прэсай на «ты»

Генадзь Карпенка разумеў моц сродкаў масавай інфармацыі, іх уплыў на фармаванне грамадскай думкі. Гэта было вельмі важна на пачатковым этапе рэформ. На той час у горадзе выходзілі два выданні: «Маладзечанская газета» і «Наш дзень». На сустрэчы з галоўнымі рэдактарам і журналістамі абедзвюх газет Карпенка заклікаў не навязваць свой пункт погляду, а даваць магчымасць выказацца прадстаўнікам розных палітычных сілаў.

### Дэцэнтралізацыя

Як вядома, 12 верасня гэтага года старшыня Савета Рэспублікі Міхаіл Мясніковіч на спецыяльным круглым стале загаварыў пра магчымасць перадачы часткі функцый мясцовым органам ад цэнтральных пры вырашэнні рэгіянальных сацыяльна-эканамічных пытанняў.

Аднак такая праблема ставілася Карпенкам у далёкім 1991-м. Ён казаў пра перашкоды, якія існуюць пры збліжэнні эканомікі абласцей, неабходнасці ўзмацнення кампетэнцыі мясцовых уладаў.

Напрыклад, казаў Карпенка, Смаргонь знаходзіцца ў 30-ці кіламетрах, аднак «дабро» на супрацоўніцтва трэба атрымліваць у Мінску. Тым не менш, Карпенка дамовіўся з тагачасным кіраўніком Гродзеншчыны Дзмітрыем Арцыменем: Гродна павінна было дапамагчы ў будаўніцтве ў Маладзечне камбіната буйнапанельнага домабудавання (кошт камбіната вагаўся ў межах 50 мільёнаў рублёў). Увод у дзеянне такога камбіната дапамог бы вырашаць жыллёвую праблему, бо чарга ў Маладзечне на кватэры дасягала 25 гадоў.

### Гандаль, гандаль

Адна з найбольш важных праблемаў маладзечанцаў на пачатку 1990-х гадоў была звязана з недахопам тавараў першай неабходнасці, у першую чаргу, харчоў. «Маладзечанская газета» і «Наш дзень» часта



**На «Маладзечна–93» завіталі высокія госці. Генадзь Карпенка размаўляе з Вячаславам Кебічам. За Кебічам (у акулярах) — лідар сталічных прадпрымальнікаў Уладзімір Карагін. Побач з Карагіным — міністр унутраных спраў Уладзімір Ягораў. Справа ад Карпенкі (у цёмных акулярах) карэспандэнт «Народнай газеты» Павел Якубовіч. За спіной Карпенкі (папраўляе гальштук) — Віктар Ганчар.** Крыніца: Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.

выходзілі з наступнымі загалоўкамі: «Ці з'явіцца мяса?», «Ці будзе жыццё салодкае?» (гаворка ішла пра цукар) і падобнымі да іх.

Карпенка і Ганчар публічна заявілі, што арганізацыя новай сістэмы гандлю ў горадзе — іх справа гонару. Карпенка падпісаў загад аб істотным скарачэнні мясцовага апарату гандлю і неадкладна абяцаў адправіць дырэктара гархарчпрамгандлю Віннікава ў адстаўку. Аднак было зразумела, што адным адміністрацыйнымі захадамі не абысціся: наспелі сістэмныя крокі.

Летам 1991 года ў Маладзечне пачала дзейнічаць новая структура «Бізнес-цэнтр», якая са згоды гарвыканкама спалучыла ў сябе як камерцыйныя, так і адміністрацыйныя функцыі. Галоўная задача «Бізнес-цэнтра» заключалася ў стварэнні альтэрнатыўнай сістэмы забеспячэння жыхароў горада таварамі, у тым ліку і імпартнымі. «Бізнес-цэнтр» таксама заняўся пасрэдніцкімі паслугамі і стварэннем пэўнай колькасці сумесных прадпрыемстваў па выпуску тавараў народнага спажывання. Напрыклад, пачало ствараца савецка-афганскае сумеснае прадпрыемства «ХайБел» па вытворчасці шампуняў і касметычнай прадукцыі.

У жніўні 1991 года перад маладзечанцамі гасцінна раскрыў дзверы «Пінгвін» — салон па продажы марозіва, філіял сумеснага савецка-швейцарскага прадпрыемства «Белкампексім».

Неўзабаве запрацаваў і «Віленскі шлях» — самы сучасны па тых мерках супермаркет.

## Прыватызацыя

Карпенка быў упэўнены: грошы ў вечна пустым гарадскім бюджэце могуць з'явіцца толькі ад прыватызацыі — у першую чаргу, аб'ектаў гандлю і камунальнай уласнасці. Увосень 1991 года ў Маладзечне адбыўся першы аўкцыён. На продаж былі выстаўлены мясцовая цырульня, крамы «Алімпік» і «Бакалея». На 1 ліпеня 1992 года ў Маладзечне існавалі 43 кааператывы, 345 малых прадпрыемстваў.

## І, канешне, спорт

Карпенка, вялікі аматар футбола, усяляк садзейнічаў мясцовай камандзе. І вынік быў. 15 верасня 1991 года ў Сумгаіце маладзечанскі «Металург» вырваў перамогу і заваяваў кубак СССР сярод калектываў фізічнай культуры. І пазней маладзечанскія футбалісты цешылі сваіх фанатаў перамогамі.

## Павінны быць усе роўныя

Стаўшы на чале Маладзечна, Карпенка імкнуўся забяспечыць сабе папулярнасць і на ніве барацьбы са старой камандай. Неўзабаве пасля прыходу Карпенкі-Ганчара высветлілася, што былы кіраўнік выканкаму Выбарнаў і галоўны архітэктар горада Згрунда незаконна атрымалі ордэры на чатырохпакаёвыя кватэры, хаця, паводле заканадаўства, не мелі права на паляпшэнне жыллёвых умоў. Выбарнаў, адчуваючы хісткасць свайго становішча, добраахвотна здаў ордэр, а вось за галоўнага архітэктара ўзяўся суд.



**Генадзь Карпенка і ягонае «Маладзечна–94».** Крыніца: Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь



**Генадзь Карпенка на адным з мітынгаў у Маладзечне, 1991 год.** Крыніца: Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь



**Уладзімір Станкевіч.** Крыніца: www.vytoki.net

## Прымусілі падзяліцца камуністаў

Гарвыканкаму моцна пашанцавала ў гарачыя дні путчу жніўня 1991 года. Пасля паразы ГКЧП было прынята рашэнне, што мясцовы будынак КПБ з усёй маёмасцю пераходзіць у часовае распараджэнне гарвыканкама паводле пастановы Вярхоўнага Савета ад 25 жніўня 1991 года аб часовым прыпыненні дзейнасці КПБ-КПСС у Беларусі. У сувязі з гэтым была створана адмысловая камісія, у якую ўвайшлі Карпенка, Ганчар, міжраённы пракурор, галоўны ўрач цэнтральнай раённай бальніцы, дырэктар музычнага вучылішча, першыя сакратары гаркама і райкама КПБ.

Дарэчы, сам Карпенка на сустрэчы з камуністамі і ветэранамі горада асудзіў дзеянні ГКЧП і партыйнага і дзяржаўнага кіраўніцтва рэспублікі (Анатоль Малафееў, Мікалай Дземянцей) як антыканстытуцыйныя. Карпенка заклікаў КПБ распусціцца: маўляў, сумленныя людзі здольны стварыць новую партыю.

Сустрэча праходзіла вельмі эмацыйна. Камуністы-ветэраны не шкадавалі агідных слоў на адрас Карпенкі і Ганчара, моцна свісталі. Аднак Карпенка пераканаўча даказваў, што кампартыя доўгі час выконвала функцыі дзяржаўных органаў, таму яе сродкі, маёмасць і грошы з'яўляюцца ўласнасцю дзяржавы. А сёння ўлада — Савет народных дэпутатаў. Таму згоды на передачу ад партыйных органаў не патрабуецца.

## І навука, і культура

Дзякуючы ў тым ліку намаганням Генадзя Карпенкі ў Маладзечне 18–20 жніўня 1992 года адбылася Міжнародная навуковая канферэнцыя, прысвечаная нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. На мерапрыемстве былі прадстаўлены 150 дакладаў прадстаўнікоў краін СНД, Балтыі, Аўстрыі, Швейцарыі, ЗША, Канады, Польшчы, Аўстраліі ў чатырох секцыях: «Вопыт гісторыі», «Шляхі адраджэння», «Рэлігія і нацыянальная свядомасць», «Мастацкае слова, мова, фальклор». На канферэнцыі прысутнічалі сапраўдныя волаты Беларушчыны: Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч, Адам Мальдзіс і іншыя.

**Пры Карпенку пачалі ажыццяўляцца культурныя праекты: «Спадчына» і «Родная мова» з мэтай папулярызацыі беларускай гісторыі і культуры, мовы. Горад пачаў першым у рэспубліцы пазбаўляцца стандартных камуністычных назваў вуліц. Шмат з іх вярнулі сваю спрадвечную назву**

Маладзечна апынуўся, бадай, адзіным горадам, у якім 25 сакавіка 1993 года на дзяржаўным узроўні былі адзначаны 75-я ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі: грамадскасць горада пры ўдзеле Карпенкі адкрыла на цэнтральнай плошчы горада «Камень памяці» з мармуру. Таксама адбыўся мітынг і ўрачысты сход і канцэрт «Спадчыны».

Вялікую ўвагу Генадзь Карпенка надаваў міжнародным сувязям. Адной з галоўных ягоных задач стала захаванне адносінаў з нямецкім пабрацімам Эслінгенам. У сакавіку 1993 года паміж Маладзечнам і амерыканскім горадам Чылікота (штат Агая) было падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве. У Маладзечне таксама пабывалі прадстаўнікі Ізраіля і Кітая.

Пры Карпенку пачалі ажыццяўляцца два буйныя культурныя праекты: «Спадчына» і «Родная мова» з мэтай папулярызацыі беларускай гісторыі і культуры, мовы. Пры Карпенку горад пачаў першым у рэспубліцы пазбаўляцца стандартных камуністычных назваў вуліц. Шмат з іх вярнулі сваю спрадвечную назву.

## Горад фестывальны

Візітнай карткай Маладзечна, канешне, стаў фестываль маладых выканаўцаў. Сам Генадзь Дзмітрыевіч быў нязменным старшынёй аргкамітэта «Маладзечна–93» і «Маладзечна–94», на якіх прысутнічаў нават старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч. Менавіта ў Маладзечне пуцёўку у музычнае жыццё атрымалі Ларыса Грыбалёва, Ірына Дарафеева і іншыя.

Адзін з самых багатых бізнесоўцаў ЗША (яго імя беларускія СМІ так і не раскрылі) быў у такім захапленні ад фэсту «Маладзечна–93», што абяцаў дапамагчы гораду. Праз год у Маладзечна сапраўды прыйшла гуманітарная дапамога (22 кантэйнеры па 40 тон кожны). Гэта былі ў першую чаргу прадукты харчавання (сокі, пюрэ, супы, гароднiна) для хворых дзетак.

У сакавіку 1994 года ў Маладзечне ўпершыню ў Беларусі адбыўся тэатральны фестываль «Маладзечанская сакавіца». Менавіта падчас такіх мерапрыемстваў склаліся моцныя сяброўскія адносіны Карпенкі і вядомага драматурга Аляксея Дударава. Апошні, як вядома, узначаліў ініцыятыўную групу Карпенкі ў 1994 годзе (1667 чалавек) па зборы подпісаў на вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты.

## Закрынічыла тут жыццё...

Эканамічнае развіццё горада непазбежна пацягнула за сабой уздым грамадскай актыўнасці: ад цікавых конкурсаў да рэгістрацыі мясцовых аб'яднанняў прадпрымальнікаў і скаўтаў. Летам 1993 года ў горадзе адбыўся конкурс «Супербабуля», у якой 11 прэтэндэнтак павінны былі апісаць свой жыццёвы вопыт і атрымаць салідную грашовую прэмію.

11 кастрычніка 1993 года ў гарвыканкоме адбылася сустрэча прадстаўнікоў гарадскіх арганізацый невытворчага напрамку дзейнасці. На сустрэчы было пастаўлена пытанне аб стварэнні адзінага цэнтра па каардынацыі дзейнасці. Генадзь Карпенка заявіў, што будучы цэнтр не мае на мэце ўзяць пад кантроль грамадскія арганізацыі, гаворка ідзе толькі пра каардынацыю і інфармаванне.

## Лыжка дзёгцю

Справа, якую распачаў Карпенка, не магла не спарадзіць ворагаў і зайздроснікаў. 15 жніўня 1992 года ў абласной газеце «Мінская праўда» з'явіўся артыкул пад назвай «...А без закона — бардельеро». У ім Маладзечанскі гарвыканкам абвінавачваўся ў тым, што ў жніўні 1991 года быццам бы незаконна зарэгістраваў акцыянерные таварыства «Беларускі гандлёва-прамысловы саюз», бо ў апошняга адсутнічалі ўласны рахунак і ліцэнзія Нацбанка.

Гарвыканкаму таксама закідалася адсутнасць кантролю над размеркаваннем гуманітарнай дапамогі, а непасрэдна Карпенку — асабістая нясціпласць, бо, маўляў, першаму чалавеку Маладзечна, які за зачыненымі дзвярыма цалуецца і абдымаецца з кіраўнікамі таварыства, сёе-тое даставалася з барскага стала.

У інтэрв'ю «Нашаму дню» Карпенка назваў публікацыю паклёпам і паабяцаў разабрацца з журналістам і рэдактарам.

## Час надышоў

Далейшыя планы Карпенкі па добраўпарадкаванні Маладзечна перакрэсліў прыход да ўлады прэзідэнта Лукашэнкі. Карпенка ніколі не хаваў сваіх антыпатый да дырэктара саўгаса «Гарадзец». У сваім выступе ў Вярхоўным Савеце 23 сакавіка 1995 года Карпенка заявіў, што перад першымі выбарамі прэзідэнта Лукашэнка запэўніваў яго: «Если я выстрелю в себя, то народ на больничной койке вынесет меня в президенты». Тады ён, Карпенка, адказаў: «Смотри, не промахнись только».

Тым больш, што Лукашэнка пачаў выбудоўваць так званую «вертыкаль», калі кіраўнікі абласцей і раёнаў фактычна прызначаюцца кіраўніком дзяржавы пры фармальнай згодзе дэпутацкіх сесій. Адпаведныя змены ў закон аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы былі зацверджаны 6 кастрычніка 1994 года. Канстытуцыйны Суд фактычна стаў на бок Лукашэнкі.

У Карпенкі не было іншага выйсця. 28 лістапада 1994 года ён падаў заяву аб адстаўцы. З копіі працоўнай кніжкі (Нацыянальны архіў, фонд №1376) Генадзя Дзмітрыевіча бачна, што з пасады «мэра» ён сышоў 15 снежня 1994 года. А ўжо 19 снежня перайшоў на працу ў камісію Вярхоўнага Савета па навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе.

Эра Горада Сонца скончылася.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. Конкурсу прыгажунь больш не будзе?

Амерыканскі шоў-бізнес падлічвае страты. Яшчэ ніколі ў гісторыі так мала людзей не глядзелі фінал конкурсу «Міс Амерыка», як сёлета. Гэта падзея зацікавіла толькі 4,4 мільёна гледачоў. Параўнайце з лічбай 33,1 мільёна — аўдыторыя конкурсу ў 1988-м. Чаму прыгажуні больш не выклікаюць ажыятажу ў амерыканскім соцыуме? На гэты конт культуролагі прапануюць шэраг адказаў. Самы незвычайны сярод іх звязаны з дэфіле канкурсантак у бікіні ці ў купальніках — традыцыйная частка конкурсу. У гэтым годзе з'яўленне дзяўчат у бікіні вырашылі адмяніць, пабачыўшы ў ім праяву візуальнай эксплуатацыі жанчын. Не выратавала паказ бікіні нават тое, што конкурс у купальніках быў часткай шоў, пачынаючы з яго першага фіналу ў 1921 годзе. Тэорыя наконт ролі бікіні цікавая, аднак у яе ёсць слабае месца. Цікавасць да конкурсу падала нават тады, калі конкурс бікіні быў абавязковай часткай праграмы. У мінулым годзе фінал «Міс Амерыкі» глядзелі 5,5 мільёна гледачоў, а ў 2016-м — 6,2 мільёна. Між тым прэса піша, што крызіс «Міс Амерыкі» за акіянам негатыўна адаб'ецца на ўсіх нацыянальных конкурсах прыгажосці, арганізатарам якіх таксама пагражае банкруцтва.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Назарбаеў ідзе шляхам Чынгіз-хана?

Незвычайным чынам трактуе Лейла Храпунова, адна з лідарак казахскай апазіцыі, нядаўняе рашэнне Назарбаева. Ён пастанавіў перайменаваць Усходнеказахскую вобласць у «Алтын-Алтай». Такое рашэнне Астана тлумачыць тым, што даўно наспела дэкамунізацыя казахскай тапанімікі. Між тым апазіцыя лічыць, што сапраўдная прычына перайменавання — прэзідэнцкі ўнук Алтай. «Перайменаваннем Усходнеказахстанскай вобласці ў «Алтын-Алтай» Назарбаеў замацоўвае гэты рэгіён за сваім унукам Алтаем і сваякамі па гэтай лініі ад сярэдняй дачкі», — сцвярджае Храпунова. Больш за тое, яна мяркуе, што іншыя рэгіёны краіны таксама хутка будуць замацаваныя за сваякамі Елбасы, — менавіта так у свой час замацоўваў за роднымі ўлусы Чынгіз-хан. Зыходзячы з гэтага апазіцыянерка робіць выснову: «Ствараецца база па ўвядзенні саслоўяў новай арыстакратыі». Трактоўка Храпуновай здаецца фантастычнай, але некаторыя палажэнні Канстытуцыі Казахстана і Крымінальнага кодэксу сапраўды ў шэрагу артыкулаў маюць азначэнне «саслоўе».

**Паводле казахскай прэсы**

### ГРУЗІЯ. Ад рэвалюцыі ружаў да рэвалюцыі...

Тэма марыхуаны імкліва становіцца галоўнай тэмай грузінскай палітыкі. Прынамсі, яе для атакі на ўрад партыі «Грузінская мара» актыўна выкарыстоўвае апазіцыя. Яе лідар Міхаіл Саакашвілі жорстка раскрытыкаваў ідэю легалізацыі марыхуаны, і нават заклікаў стварыць «фронт супрацьстаяння перараджэнню нацыі». «Наркотыкі прыносяць не свабоду, а злачыннасць, узурпацыю ўлады, крайнюю галечу ды, кажучы проста, абалваньванне насельніцтва», — піша ён у Facebook. На думку палітыка, які хаваецца ад грузінскага правасуддзя ў Нідэрландах, легалізацыю замовіў алігарх Бідзіна Іванішвілі. Алігарх, які кантралюе ўрад краіны, мае намер ператварыць Грузію ў буйнога вытворцу наркотыкаў. Гешэфты ад гэтага, мяркуюць, атрымае аптэчная сетка, якая належыць Іванішвілі, і якая будзе мець эксклюзіўнае права на продаж марыхуаны. У прынцыпе, стаўка Саакашвілі на тэму «траўкі» зроблена правільна. Тры чвэрці насельніцтва Грузіі выступаюць катэгарычна супраць легалізацыі. З іншага боку, за легалізацыю выступае крэатыўны клас і моладзь, якая заўсёды была авангардам зменаў.

**Паводле грузінскай прэсы**

### ЗША. Першы альфа-самец у гісторыі кіно

Амерыканскі акцёр Берт Рэйнальдс сышоў з жыцця 6 верасня, але яго спадчына дасюль абмяркоўваецца на старонках прэсы. Рэйнальдсу прыпісваюць такі грэх, як стварэнне вобраза альфа-самца. Герой яго паспяховай трылогіі «Паліцэйскі і бандыт» — вусаты мужчына з бруднымі жартамі, аматар машын, хуткай язды, жанчын і алкаголю. Пераймаючы стыль героя Берта, многія мужчыны-амерыканцы пачалі аналагічна паводзіць сябе ў побыце. Устаноўка пра тое, што сапраўдны мужчына павінен насіць вусы, увогуле стала ўніверсальнай. Апаненты згаджаюцца, што героі Берта далёкія ад нормаў нашага часу. Аднак трэба прыгадаць, што Берт сам быў шакаваны поспехам першага эпізоду «Паліцэйскага і бандыта», які, дарэчы, здымалі як малабюджэтнае другагатунковае кіно. Відавочна, падобны стыль быў запатрабаваны публікай. Прычым у такой ступені, што 1973 па 1983 год Рэйнальдс аспрэчваў званне самага папулярнага акцёра Амерыкі, намінаваўся на Оскара, а кожнаму фільму з яго ўдзелам быў гарантаваны касавы поспех. Можна пагадзіцца, што нябожчыку пашанцавала трапіць на хвалю гэтага запыту на мужчыну-мача, і няслаба зарабіць. Пры жыцці ён мог сабе дазволіць нават уласны авіялайнер.

**Паводле амерыканскай прэсы**




Фота www.svoboda.org

# Данецк пасля Захарчанкі

Алег НОВІКАЎ

**Забойствы лідара сепаратыстаў Аляксандра Захарчанкі разглядаюць як пачатак новага этапу ў супрацьстаянні на Данбасе. Чытачам «Новага Часу» данецкі прафсаюзны актывіст Іван Сурмін распавядае пра рэаліі Данбаса пасля заканчэння эпохі Захарчанкі.**

***— Часова выконваючы функцыі кіраўніка так званай «Данецкай Народнай Рэспублікі» Дзяніс Пушылін 15 верасня заявіў, што забойства Захарчанкі арганізавалі супрацоўнікі Службы бяспекі Украіны. Пры гэтым, паводле яго словаў, СБУ дапамагалі заходнія спецслужбы. Што ў Данецку думаюць пра гэта, хто замовіў Захарчанку?***

— Версія пра след СБУ гучала і раней. Аднак у Данецку сярод мясцовых дамінуе думка, што адказных за тэракт супраць Захарчанкі трэба шукаць у яго атачэнні або сярод сяброў мясцовай эліты. Не выключаю, што да выбуху ў кавярні «Сепар» прыклаў руку данецкі алігарх Рынат Ахметаў, які ў 2014-м збег у Кіеў. На гэта, нібыта, паказвае тое, што пасля смерці «Захара» пачалося вяртанне нацыяналізаваных раней рынкаў у рукі ранейшых гаспадароў. Многія з іх уваходзяць у «клан Ахметава». Алігарху сёння таксама перадаюць ДМЗ — адзін з буйных мясцовых заводаў.

***— Але ў свой час Захарчанка таксама лічыўся чалавекам Ахметава?***

— Ён сапраўды пачынаў шлях у палітыку ў статусе чалавека Ахметава, але з часам паступова дрэйфаваў у бок большай аўтаноміі. Пачаў гуляць уласную гульню. Адначасова Захарчанку моцна раскручвалі ў Расіі, дзе яму быў створаны імідж нейкага данбаскага Чэ Гевары. У выніку ён быў, бадай, адзіным чалавекам у Данецку, хто мог амаль на роўных размаўляць з Крамлём. А ад Крамля ДНР залежыць крытычна. Цяпер такой фігуры няма.

Гэтым тлумачыцца тое, што многія з трывогай успрынялі навіну пра смерць «Захара». Людзі баяцца, што Данбасам будзе кіраваць нейкі ананімны кансорцыум з крамлёўскіх чыноўнікаў і менеджараў Ахметава. І такія асцярогі апраўдваюцца. Ліквідацыя «Мінабароны ДНР», якая цяпер адбываецца, — гэта зачыстка апошніх аўтаномных ад Масквы мілітарных фармаванняў.

Ёсць асцярогі, што каманда Пушыліна будзе імкнуцца забыцца пра сацыяльны складнік праекта «ДНР». У 2014-м на вуліцах многія выступалі не столькі за «рускій мир», колькі супраць мясцовага алігархату. Пасля таго, як у жніўні ўвесь супраціў узялі пад кантроль маскоўскія

**Многія з трывогай успрынялі навіну пра смерць «Захара». Людзі баяцца, што Данбасам будзе кіраваць нейкі кансорцыум з крамлёўскіх чыноўнікаў і менеджараў Ахметава. І асцярогі апраўдваюцца**

эмісары, пра тыя лозунгі згадваюць ўсё радзей і радзей.

***— На 11 лістапада прызначаны выбары ў Народны савет непрызнанай ДНР. Якія перадвыбарчыя расклады і прагнозы?***

— Вынікі выбараў 11 лістапада фактычна вядомыя ўжо сёння. Перамогуць былыя рэгіяналы (сябры «Партыі рэгіёнаў» экскіраўніка Украіны Януковіча. — рэд.), якія складаюць абойму вертыкалі. Пры гэтым асабліва брудных фальсіфікацый, напэўна, нават не спатрэбіцца. У Народны савет трапяць тыя, каму трэба трапіць. Вядома, што для прыстойнасці камусьці даручаць імітаваць апазіцыю кіруючай партыі «Данецкая рэспубліка». На першых выбарах гэта было аб'яднанне «Вольны Данбас», якое падчас кампаніі падтрымлівала «Данецкую рэспубліку». Магчыма, гэтым разам ролю «апазіцыі» даручаць рэштам структур Кампартыі. Не выключаю, што будзе актыўнічаць экс-народны губернатар Павел Губкін, які стварыў сваю арганізацыю.

***— Якая сёння эканамічная сітуацыя ў «ДНР»?***

— Эканамічна сітуацыя на Данбасе, па вялікім рахунку, — люстэрка сітуацыі ва Украіне. Гэта не дзіўна, паколькі Данбас нефармальна, нягледзячы на блакаду, застаецца часткай украінскага рынка. У Данецку такі ж узровень заробкаў, як у вялікіх гарадах украінскага Паўднёвага Усходу. Заробак балансуе дзесьці ў межах 10 тысяч расійскіх рублёў (прыкладна 150 долараў).

***— У Кіеве стартуе новы выбарчы цыкл — выбары прэзідэнта і парламента. Лічыцца, што па іх выніках можа кардынальна змяніцца фармат адносінаў Кіева з Данецкам. Што думаюць у Данецку пра працэсы на так званай «вялікай Украіне»?***

— Палітычнымі працэсамі ва Украіне ніхто асабліва не цікавіцца. Усе мясцовыя заўзятыя ўкраінафілы адсюль паступова з'ехалі ці былі вымушаныя з'ехаць. Зрэшты, з'яўленне масавага праўкраінскага руху тармозяць не столькі спецслужбы, колькі пастаянны рост тарыфаў ва Украіне, які палохае шараговых грамадзян. Ёсць сегмент данчан, якія не супраць вярнуцца пад руку Кіева на правах аўтаноміі. Аднак кіеўскія ўлады, здаецца, не асабліва ў захапленні ад такога плану. Схема з аўтаноміяй запусціць федэралізацыю краіны. Не кажучы ўжо пра тое, што рэінтэграцыя Данбаса на парадак павялічыць электарат апанентаў цяперашняй кіеўскай улады.

Зрэшты, у варыянт уваходжання «ДНР» у Расію таксама вераць усё менш. Зыходзячы з канстатацыі факту таго, што альтэрнатывы існуючаму статус-кво няма, паступова адбываецца нейкая нармалізацыя і нават інстытуялізацыя рэальнасці, у якой мы апынуліся.

# Жырыноўскі з тропікаў

Алег НОВІКАЎ

**Чым бліжэй 7 кастрычніка — дзень прэзідэнцкіх выбараў у Бразіліі, — тым больш перасцярог наконт магчымай перамогі ўльтраправага палітыка Жаіра Балсанару.**


Фота www.observatoriodeourofino.com.br


Фота www.agenciasertao.com

Чытач са стажам дакладна памятае, які шок выклікалі вынікі думскіх выбараў у Расіі ў снежні 1993-га. Іх галоўным трыумфатарам апынуліся ліберал-дэмакраты Уладзіміра Жырыноўскага — 22 працэнты галасоў і самая вялікая парламенцкая фракцыя. Прычым марш ліберал-дэмакратаў ва ўладу быў настолькі пераканаўчы, што ў прэсе ўзнік цэлы жанр фантазій наконт таго, як у хуткім часе, пасля перамогі Жырыноўскага, будзе выглядаць Расійская Федэрацыя. Нехта пісаў, што Расію чакае аналаг дыктатуры Садама Хусейна. Іншыя прагназавалі паўстанне ў РФ васковай хунты, якая паспрабуе аднавіць СССР.

Нешта падобнае адбываецца цяпер у Бразіліі, дзе фаварытам на прэзідэнцкіх выбарах у кастрычніку з'яўляецца Жаір Балсанару, кандыдат ад партыі сацыял-лібералаў і былы вайсковец. Цяпер Балсанару мае прыкладна 26 працэнтаў падтрымкі ды апярэджвае на 13 працэнтаў бліжэйшага канкурэнта. Нарэшце, варта ўзгадаць, што ў Балсанару 4,8 мільёна сяброў у Facebook. На 1,7 мільёна больш, чым у яго апанентаў.

Сам кандыдат ад сацыял-лібералаў вядомы сваімі вельмі правымі, нацыяналістычнымі і кансерватыўнымі поглядамі, што дазваляюць прэсе называць яго бразільскім Трампам. Дастаткова прыгадаць сеансы настальгіі Балсанару па часах вайсковай дыктатуры 1960-х гадоў і катаваннях, якія тады ўжываліся супраць палітвязняў. Ён нават лічыць, што парламент — перашкода для сістэмы эфектыўнага кіравання краінай.

З аднаго боку, паралелі паміж Балсанару і Трампам трошкі супакойваюць. Большасць выбарчых абяцанняў Трампа застаюцца нерэалізаванымі. Значна лепш у яго атрымліваюцца інфармацыйныя скандалы і правакацыі, якія дазваляюць прэзідэнту ЗША заставацца ў цэнтры ўвагі.

Аднак у выпадку Бразіліі скандаламі ў СМІ справа можа не абмежавацца. Інстытуты дэмакратыі і палітычная культура ў Лацінскай Амерыцы не такія моцныя, як у Злучаных Штатах. Таму некаторыя з экстравагантных абяцанняў Балсанару могуць сапраўды ажыццявіцца.

Найбольш рэалістычна, напэўна, выглядае ідэя запрашэння ў краіну вядучых ліберальных эканамістаў свету, якія павінны дапамагчы выратаваць гаспадарку Бразіліі за кошт рэцэптаў а-ля Пiначэт. Ці атрымаецца ў Балсанару паўтарыць так званы «чылійскі цуд» — пытанне, як мінімум, спрэчнае. А вось рызыкі яго абяцанняў легалізаваць продаж зброі відавочныя. І без такой легалізацыі Бразілія — вельмі крыміналізаваная краіна, дзе кожныя 15 хвілін забіваюць чалавека.

Не выключаючы пры Балсанару рэзкага кансерватыўнага павароту ў сферы культурнай палітыкі. Ён, нягледзячы на свой трэці шлюб, пазіцыянуе сябе як фанатычны прыхільнік кансерватыўных каштоўнасцяў. Не хавае антыпатыі да гомасексуалістаў, заклікае іх бацькоў выракацца такіх дзяцей.

Прычым кансерватызм кандыдата ў прэзідэнты часам набывае формы адкрытай нянавісці да жанчын, якіх ён лічыць непаўнавартаснымі. Неяк ён нават заявіў, што ў яго сям'і адзіная дачка нарадзілася толькі таму, што ён падчас зачацця быў у фізічна слабым стане. З той жа серыі яго ідэя амністыі для гвалтаўнікоў і забарона абортаў.

Варта чакаць ад Балсанару-прэзідэнта і нейкіх паліцэйскіх учынкаў. Напрыклад, ён можа ўвесці на тэрыторыю вучэбных установ нацыянальную гвардыю для забеспячэння бяспекі вучняў і настаўнікаў. Наконт бяспекі цяжка казаць, а вось хаос у гуманітарных вучэбных праграмах Балсанару дакладна забяспечыць. Яго погляды на гісторыю супярэчаць усім прынятым гістарычным канцэптам. Напрыклад, ён мяркуе, што рабоў у Бразілію прывозілі не партугальцы, а афрыканскія князькі, якія ахвотна прадавалі сваіх суайчыннікаў. Увогуле, Балсанару не любіць бразільцаў афрыканскага паходжання.

Самы змрочны сцэнар наконт прэзідэнцтва Балсанару — вайна. Часам можна наткнуцца на версію пра тое, што амерыканцы маюць намер выкарыстаць Бразілію пад кіраўніцтвам Балсанару для звяржэння левага рэжыму Нікаласа Мадуры ў суседняй Венесуэле. Тым больш, што casus belli знайсці няцяжка. Тысячы венесуэльцаў праз эканамічны крызіс на радзіме бягуць у Бразілію, выклікаючы на венесуэльска-бразільскай мяжы сапраўдную гуманітарную катастрофу. Шмат хто ў гэтай сувязі звярнуў увагу на нядаўні падарунак Бразіліі ад Вашынгтона — вялікую партыю артылерыйскай зброі.

Натуральна, паўстае пытанне: чаму бразільцы гатовыя галасаваць за асобу, падобную да героя коміксаў? У прэсе называюць шмат прычынаў. Агучым найбольш незвычайную: бразільцы вельмі расчараваліся ў выбарчай сістэме, і ўсё часцей разглядаюць палітыку як шоў. А каб шоў было цікавей — трэба прагаласаваць за арыгінала.

Застаецца толькі спадзявацца, што Балсанару ў выніку паўторыць шлях свайго папярэдніка Жырыноўскага. Нягледзячы на шалёны поспех у 1993-м, у Крэмль Уладзімір Вольфавіч так і не трапіў. З часам у вачах выбаршчыка ён стаў выглядаць не як кандыдат у дыктатары, а, хутчэй, як нейкі жарт.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Сяргей Леўчанка

Губернатар Іркуцкай вобласці Расіі і сябра КПРФ, на думку шматлікіх экспертаў, стаў аўтарам адраджэння так званага «Чырвонага пояса» — шэрагу рэгіёнаў Расіі, дзе ў 1990-я галасавалі за камуністаў.

Сам Леўчанка 9 верасня атрымаў пераканаўчую перамогу на выбарах губернатара. Больш за тое, у яго рэгіёне фактычна здарыўся разгром прапуцінскай «Адзінай Расіі», калі і выканаўчая, і заканадаўчая ўлады апынуліся ў руках апазіцыйнай партыі. Камуністы добра паказалі сябе на выбарах губернатараў Прымор'я, Хакасіі, Хабараўскага краю.

Праўда, тут дарэчы пытанне — і што з таго? Зюганаўцы, будучы сістэмнай партыяй, заўсёды выконвалі ролю пратэстнага громаадводу.

Іншыя кажуць, што цяпер сітуацыя абсалютна іншая. Ранейшы «Чырвоны пояс» быў створаны на базе настальгіі па савецкім мінулым. Цяпер людзі не настальгуюць, а змагаюцца за больш канкрэтныя рэчы, выкарыстоўваючы структуры і рэсурсы КПРФ. Акрамя таго, унутры апарату КПРФ з'явіліся людзі накшталт Леўчанкі, якія гатовыя эксплуатаваць сацыяльныя патрабаванні для кар'ернага росту.

Хто мае рацыю ў гэты спрэчцы наконт прыроды КПРФ, напэўна, пакажа час. Але так ці інакш прасачылася інфармацыя, што ў Крамлі зноў задумаліся пра стварэнне новай прапуцінскай левай партыі, якая будзе канкураваць з КПРФ. Яе стварэнне запланавана да канца гэтага года.

### Эмануэль Макрон



Прэзідэнт Францыі шмат каму не падабаецца, аднак дакладна, што алжырцы будуць заўжды яму ўдзячныя.

Менавіта пры Макроне Парыж афіцыйна прызнаў, што падчас вайны супраць алжырскіх незалежнікаў (1954–1962 гг.) французы сістэмна практыкавалі катаванні. «Катаванні мелі сістэмны характар падчас канфлікту ў Алжыры, і мы павінны прызнаць гэта з мужнасцю і шчыра», — сказаў днямі французскі гарант. Ён таксама прызнаў, што спецслужбы палявалі за грамадзянамі Францыі, якія выступалі за незалежнасць Алжыру. Адзін з іх быў арыштаваны і памёр падчас катаванняў.

Словы Макрона можна лічыць гістарычнымі. Раней афіцыйны Парыж упарта намагаўся не каментаваць інфармацыю пра вайсковыя злачынствы французскіх сілавікоў падчас вайны. Праўда, заява Макрона не азначае, што родныя ахвяраў катаванняў маюць падставы падаваць у суд на Францыю і патрабаваць кампенсацыю. Як падкрэсліў прэзідэнт Францыі, ва ўсім вінаватыя не ўлады, а сілавікі на месцах, якія па-свойму трактавалі тагачасны дэкрэт парламенту. Той дакумент дазваляў затрымліваць і ўтрымліваць за кратамі падазраваных без санкцый пракурора або рашэння суда.

Так ці інакш, Макрону ўсё роўна ўдзячныя. Яго словы параўноўваюць з заявай Жака Шырака, які ў 1995-м прызнаўся, што падчас Другой сусветнай вайны французская дзяржаўныя ўстановы перадалі нацыстам 76600 яўрэяў, якіх чакала смерць у канцлагерах.

### Маркус Содэр



Старшыня баварскай партыі Хрысціянска-сацыяльны саюз (CSU) ператварыўся ў бомбу пад нямецкую палітычную стабільнасць.

Усё праз апошнія рапарты сацыёлагаў. Паводле іх, яшчэ ніколі ў гісторыі ФРГ рэйтынгі хрысціянскіх сацыялістаў не былі такімі нізкімі. На сёння толькі 36 працэнтаў баварцаў гатовыя галасаваць за партыю пад кіраўніцтвам Содэра. Нагадаем, што гаворка пра партыю, якая пасля вайны, то бок на працягу амаль 70 гадоў, менш за 44–46 працэнтаў на выбарах у Баварыі не атрымлівала.

Усе пагаджаюцца, што папулярнасць Содэра падае праз удзел CSU ва ўрадзе Ангелы Меркель, якая абараняе ліберальны курс адносна імігрантаў. Праз гэта галасы прыхільнікаў CSU пераходзяць да правых папулістаў з партыі «Альтэрнатыва для Германіі».

У прынцыпе, партыйным рэйтынгам уласціва ўздымацца і падаць, аднак цяпер сітуацыя спецыфічная. Усяго чатыры тыдні засталося да выбараў у баварскі Ландтаг (яны адбудуцца 14 кастрычніка). Аглядальнікі непакояцца, што цэйтнот і крызіс даверу да CSU могуць падштурхнуць Содэра на самыя радыкальныя крокі, якія паўплываюць на ўсю нямецкую палітыку. Не выключаны і нейкі дэмарш супраць Меркель, што чарговым разам можа выклікаць урадавы крызіс у Германіі і новы раунд дэбатаў пра адстаўку Меркель з пасады канцлера.

# «Дублёр Траецкай»,
## альбо Стары Гродна зноў пад пагрозай

Алесь КІРКЕВІЧ

**Здавалася б, гістарычны цэнтр Гродна перажыў найцяжэйшыя ўдары ў часы губернатара Саўчанкі ў 2006–2008 гадах падчас «рэканструкцыі» Савецкай плошчы. А зараз — ці ўсё добра? Пагаворым пра адзін праект гродзенскіх будаўнікоў, што мае на мэце кардынальна змяніць выгляд гістарычнага цэнтру…**



Усспектры ўвагі СМІ ды грамадскіх актывістаў, што цікавяцца гісторыяй, сёння хіба рэканструкцыя гродзенскага Старога Замку паводле праекту Бачкова. Лёс менш значных аб’ектаў ды агульны выгляд гістарычнага цэнтру неяк адышлі ўбок. А дарэмна. Ужо не першы год Гроднаграмадзянпраект выношвае план будаўніцтва так званага «Дублёру Траецкай», але пра ўсё па парадку.

### Урбаністычны выбух

Кожны горад мае план свайго развіцця, альбо генплан. У савецкія часы ўсе генпланы былі зарыентаваныя на рост насельніцтва і павелічэнне транспартных плыняў, што было вынікам індустрыялізацыі беларускіх гарадоў. Адпаведна, раслі жылыя раёны вакол прадпрыемстваў ды колькасць грамадскага транспарту. З улікам усяго гэтага ў канцы 1940-х гадоў з’явіўся першы генплан Гродна.

Даваенны Гродна — гэта 58 тысяч чалавек. Пасляваенны — 30 з нечым тысяч. Да 1959 года горад вырас да 72 тысяч, то бок павялічыўся, але нязначна ў параўнанні з даваенным. А далей адбыўся сапраўдны выбух: ажно да пачатку 1990-х кожныя 15 гадоў Гродна павялічваўся прыкладна на 100 тысяч чалавек! Гэта, зноў жа, палітыка Масквы на пераўтварэнне БССР у «зборачны цэх», будаўніцтва заводаў і фабрык. А яшчэ — масавы адток людзей з вёскі: у калгасах больш працаваць ніхто не хацеў. Усё гэта перажыў і Мінск, і іншыя абласныя цэнтры.

Зараз у Беларусі ўжо няма рэсурсу для росту гарадоў: 76% насельніцтва і так там жывуць. Больш у Еўропе ў гарадах народу жыве толькі ў Вялікабрытаніі і ў Бельгіі. У Польшчы насельніцтва ў гарадах на 15% менш, чым у Беларусі. Нават у Германіі менш, чым у Беларусі! Вось і маем: Мінск і Варшава прыкладна роўныя па памерах, толькі ў Варшаве жыве 4% насельніцтва Польшчы, а ў Мінску — 23% беларусаў…

### Пад Старым горадам меў паўстаць тунель…

Вернемся, аднак, да генплану Гродна. Да другой паловы 1970-х гадоў праекты нашых будаўнікоў не прадугледжвалі ніякага захавання гістарычных будынкаў. Старога гораду як нечага асобнага і важнага наогул не існавала: руйнаваліся касцёлы (Фара Вітаўта), забудова часоў Рэчы Паспалітай, а на гэтых месцах з’яўляліся ўнівермагі ды палацы тэкстыльшчыкаў…

Усе транспартныя плыні пры гэтым праходзілі праз цэнтр і былі закальцаваныя на Стары мост. Калі з’явілася патрэба ў новых мастах, пачалася будоўля спачатку так званага Новага мосту («Мост будаўнікоў»), а ў сярэдзіне 1980-х яшчэ аднаго — Румлёўскага. Задача зразумелая: разгрузіць цэнтр і Стары мост, збудаваны яшчэ за царскім часам. Але, каб правесці праз новыя масты дастатковую колькасць транспарту, не руйнуючы старых вузкіх вулачак, трэба было вынесці і адміністратыўны цэнтр гораду хоць троху ўбок.

Так з’явіўся яшчэ адзін праект: збудаваць новы адміністратыўны цэнтр убаку, у Каложскім парку! А транспартныя плыні пусціць адтуль праз тунель, які меў праходзіць пад усім Старым горадам! Праект сышоў у нябыт, калі ў 1980-я стары горад быў нарэшце прызнаны гісторыка-культурнай каштоўнасцю. Сапраўды, дзе яшчэ ў Беларусі ў цэнтры гораду знойдзеш каля 600 кампактна размешчаных гістарычных будынкаў? Менавіта гэты фактар сёння і робіць Гродна прывабным для беларускіх і замежных турыстаў (найперш з Польшчы, Літвы ды Расіі).

### Мільёны долараў у… рыльцы бутэлькі

Дык у чым жа праблема, калі Стары горад і статус ахоўны мае, і грошы бюджэту за кошт турыстаў прыносіць? Праблема ў тым, што сённяшнія мясцовыя будаўнікі (Гроднаграмадзянпраект) бачаць вырашэнне пытання транспартных плыняў у пашырэнні артэрыяў у Старым (!) горадзе. То бок, замест таго, каб зрабіць яшчэ пару вуліц пешаходнымі (пакуль гэта толькі Савецкая і кавалачак Ажэшкі), тут прапануюць будаваць новыя магістралі.

Як гэта выглядае на практыцы? Згодна праекту «Дублёра Траецкай», будаўнікі прапануюць зрабіць фактычна новую вуліцу ў Старым горадзе — паралельна Вялікай Траецкай з боку Гараднічанкі, што ўпадае ў Нёман. То-бок ад Віленскай магістраль будзе падымацца ўверх, вулачка МОПРаўская з парай старых дамкоў будзе наогул знесеная.

Далей будзе знішчаная стаянка (патрэбная цэнтру як паветра). Далей — дзіцячы садок. Далей — пустка, дзе месціўся яўрэйскі квартал, яшчэ не даследаваны археолагамі, які ў перспектыве наогул можна было аднавіць (тут стаяла ажно чатыры сінагогі!). Далей — стаянка для турыстычнага транспарту… Ну і, нарэшце, новая магістраль зноў мае ўперціся ў Стары мост — рыльца бутэлькі з вечнымі коркамі — то бок аўтамабілістам лепш не стане!

Што ўсё гэта значыць? Па-першае, такім чынам транспартныя плыні навечна замацуюцца ў Старым горадзе, пра пешаходныя вулачкі можна будзе толькі марыць. Па-другое, будзе знесена мноства каштоўных і перспектыўных для гораду аб’ектаў. Па-трэцяе, — магчыма, галоўнае, — праблема транспартнай загружанасці вырашаная не будзе. Па-чацвёртае, на ўсё гэта пойдуць мільёны долараў з дзяржбюджэту, а значыць, з кішэняў нашых грамадзян.

### Выйсце: аб’ездная і пешаходны цэнтр

У еўрапейскіх гарадах пытанне транспартнай загружанасці даўно вырашаецца па-іншаму. Як? За кошт будаўніцтва аб’ездных шляхоў па-за гістарычным цэнтрам. У Гродна і ландшафт, і планіроўка, і масты дазваляюць зрабіць тое самае. Для гэтага варта выпрастаць вуліцу Каліноўскага (крывую і страшэнна небяспечную, дзе нават грамадскі транспарт прайсці не можа) за кошт зносу пары прыватных дамоў. Каліноўскага злучыць Горкага з Новым мостам, а далей — Астроўскага і Кахаthroughоўскага (шлях пройдзе праз колішнюю прамзону). Аб’езд гатовы!

Менавіта гэта дазволіла б хаця б часткова зрабіць гістарычны цэнтр пешаходным, а слоган «Турыстычны Гродна» з лозунгу пераўтварыць у рэчаіснасць. Так, у цэнтры надалей будзе заставацца шмат адміністратыўных будынкаў, але ў Вільні, напрыклад, прадугледзелі і гэта: праспект Гедыміна пешаходны ў выходныя дні, а ў будзённыя там ходзіць транспарт. Урэшце, аўто чыноўнікаў і міліцыі заўжды могуць мець спецпропуск.

Што да «Дублёру Траецкай», то і тут існуе альтэрнатыўная версія. Адмыслоўцы з Беларускага навукова-даследчага інстытуту горадабудаўніцтва даўно ўжо прапаноўвалі свой варыянт. Гэта — пешаходная вуліца паралельна Вялікай Траецкай, фактычна — турыстычная сцежка з агляднымі пляцоўкамі, лавамі, ліхтарамі і г.д. З пункту гледжання фінансаў, гэта адназначна не так затратна, як варыянт Гроднаграмадзянпраекту (сцежка з ліхтарамі — не магістраль), карысці для цэнтру куды болей, стратаў меней.

### Не карупцыя, а спосаб жыцця…

Пасля злучэння ў адно вуліцаў Каліноўскага, Астроўскага і Кахаsucceedноўскага транспартная загружанасць цэнтру знізіцца разы ў два. Але перад гэтым варта рамантаваць Новы мост, праз які транспарт пойдзе за Нёман. Гроднаграмадзянпраект таксама плануе рамантаваць мост, але дзіўная логіка чыноўнікаў палягае ў тым, што рабіць гэта яны збіраюцца ўжо пасля будоўлі свайго «Дублёру Траецкай». То-бок — усё наадварот, дагары нагамі.

Зразумела, што падобныя грандыёзныя малазразумелыя праекты — гэта забеспячэнне будаўнікоў працай на доўгія гады наперад. Зразумела, за кошт бюджэту. Ці можна гэта назваць карупцыяй? Хутчэй, гэта лад жыцця і спосаб дзейнасці дзяржавы, калі кожная структура хоча прыцягнуць да сябе як мага больш грошай, не думаючы пра іншыя структуры, шараговых грамадзянаў ды канчатковы вынік. Зрэшты, будаўніцтва яшчэ не пачатае, ёсць час спыніцца, усё пралічыць і прыняць правільнае рашэнне. Але ці ёсць каму?..



# Мінская Саборная мячэць на другім годзе свайго жыцця

Леанід ЛЫЧ,
доктар гістарычных навук, прафесар

**Татарскі фактар набыў вядомасць у нашым грамадстве, дзякуючы распачатаму на мяжы XX–XXI стагоддзяў магутнаму руху беларусаў і ўсіх этнічных супольнасцяў краіны за нацыянальна-культурнае адраджэнне.**



Фота www.360pano.by



Фота www.belsat.eu

Беларусы па ступені зрусіфікаванасці займалі першае месца сярод карэннага насельніцтва ўсіх саюзных рэспублік СССР. Лёгка зразумець, чаму з яго развалам не адарваная ад роднай глебы частка беларусаў актыўна ўключылася ў нялёгкае змаганне за выратаванне свайго народа ад рэальнага для яго этнічнага вымірання.

Канцэнтрацыя ўвагі беларускіх адраджэнцаў на ўласных праблемах не спрычынілася да іх абыякавага стаўлення да таго, як ідуць справы з гэтым у польскай, украінскай, яўрэйскай, татарскай, літоўскай і іншых этнічных супольнасцяў рэспублікі. Найбольшую зацікаўленасць выклікала татарская, бо ў яе адзінай, акрамя ўласнага канфесійнага, этнакультурнага жыцця, прысутнічала і штосьці з беларускага. І гэтым «штосьці» (не ўсе паверацы!) была беларуская мова. Цалкам свядомы зварот татарскіх адраджэнцаў да беларускай мовы тлумачыўся яе выключнай роляй у жыцці гэтай этнічнай групы, у тым ліку і ў рэлігійным. Мова ўжо з XIV стагоддзя стала для яе асноўным сродкам камунікатыўных зносін. А вось у жыцці літоўскай, украінскай, польскай, рускай супольнасцяў нашага краю беларуская мова так глыбока і так арганічна не пранікла.

Многія ведаюць, што ідэолагі і арганізатары татарскага рэлігійнага і этнакультурнага адраджэння мяжы XX–XXI стагоддзяў былі актыўнымі і свядомымі носьбітамі беларускай мовы. Айша і Разалія Александровічы, Ібрагім Канапацкі, Абу-Бекір Шабановіч беларускую мову зрабілі найбольш ужывальнай у розных сферах духоўна-асветніцкай дзейнасці. Менавіта на беларускай мове з 1991 года пачалі выдаваць штоквартальнік «Байрам. Татары на зямлі беларускай». Заўважу, у савецкай даваеннай і пасляваеннай Беларусі спецыяльна для татараў не было выдадзена аніводнага інфармацыйнага лістка, не кажучы ўжо пра часопіс ці брашурку. У першыя гады выдання «Байрама» рускамоўныя артыкулы (іх аўтары пераважна асобы небеларускай і нетатарскай нацыянальнасцяў, ураджэнцы іншых дзяржаў) у ім з'яўляліся вялікай рэдкасцю. Такое адбылося пазней, калі ў адпаведнасці з вынікамі лістападаўскага рэферэндуму 1996 года статус дзяржаўнай мовы ў Беларусі надалі і рускай.

У справе татарскага адраджэння надзвычай вялікую ролю адыгралі міжнародныя навукова-практычныя канферэнцыі, дзе напачатку прыярытэтная роля таксама належала беларускай мове. Першая такая канферэнцыя адбылася ў сакавіку 1993 года і была прысвечаная праблеме «Татары-мусульмане на землях Беларусі, Літвы і Польшчы». Выдадзеныя па ёй матэрыялы прыцягнулі ўвагу вялікай колькасці чытачоў, прычым і нетатарскай нацыянальнасці. На беларускай мове нашы суайчыннікі-татары разам з тымі, каго цікавіць гэтая супольнасць, пазнаёміліся з кнігай Станіслава Думіна (маскоўскі аўтар) і Ібрагіма Канапацкага «Беларускія татары. Мінулае і сучаснасць». Да гэтага падобная не з'яўлялася ў нас у друку. Наклад кнігі склаў 2000 асобнікаў, і яна не магла не выклікаць заканамернага жадання даведацца, а што ж карыснага зрабілі татары для сваёй другой радзімы, якую па ўсёй справядлівасці многія ўжо лічылі не другой, а першай. Тое, што літоўскія (беларускія) татары самаахвярна баранілі Вялікае Княства Літоўскае ад крыжакоў, а калі таго вымагала сітуацыя, дык і ад замахаў з боку Масквы, у многіх передавалася з пакалення ў пакаленне.

Але ж татары ўдзельнічалі не толькі ў вайсковых паходах, а займаліся і мірнай працай, прычым у сферы духоўнай дзейнасці, што высока каштуе ў любым грамадстве. У такой сферы праславілі сябе многія татары Беларусі, пра якіх нельга было не згадаць у насычаны падзеямі час канфесійнага і этнакультурнага адраджэння гэтай супольнасці.

І пачалі ладзіць падобнага роду культурна-асветніцкія мерапрыемствы з успамінаў пра добра вядомага і тады, і сёння пісьменніка, літаратуразнаўца, крытыка татарына з Капыля Сцяпана Александровіча. Лёс не даў дажыць яму да пачатку нацыянальнага адраджэння — памёр у 1986 годзе. Але сваімі літаратурнымі творамі ён добра паспрыяў адраджэнскаму працэсу і беларусаў, і татараў, пра што заўсёды згадвалася на канферэнцыях, круглых сталах, прысвечаных памяці гэтай слыннай асобы нашай зямлі. Падчас правядзення такіх мерапрыемстваў з дакладамі выступалі і беларусы, і татары, што яшчэ больш збліжала іх, вучыла самых старажытных перасяленцаў у наш край шанаваць свае культурна-моўныя традыцыі. Усё гэта, паводле слоў галоўнага татарскага ідэолага Ібрагіма Канапацкага, было добра вядома і ўхвалялася высокаэрудзіраваным турэцкім паслом у Рэспубліцы Беларусь паняй Шуле Сойсал.

Як бачым, Мінск у канцы 1980-х — пачатку 1990-х гадоў адыгрываў выключна важную ролю ў нацыянальным адраджэнні беларускіх татараў. Але сапраўдным цэнтрам іх канфесійнага жыцця стаць не мог — з прычыны адсутнасці мячэці, якую разбурылі ў 1962 годзе. І вось у 1990-я было вырашана ўзводзіць саборную мячэць у Мінску. Спробы развязаць гэтую архіскладаную не толькі ў архітэктурным, але і ў фінансавым плане праблему за кошт людскіх ахвяраванняў не давалі жаданых вынікаў. Не хапала і атрыманых ад арабскіх краін сродкаў. Кропку над «і» паставіла Турцыя, з рэлігійнымі структурамі якой у беларускіх мусульман даўнія і цесныя кантакты.

Афіцыйнае адкрыццё Мінскай Саборнай мячэці адбылося 11 лістапада 2016 года. З гэтай нагоды ладзіліся розныя роду мерапрыемствы рэлігійнага і культурна-асветніцкага характару.

Думаецца, што адкрыццю мячэці надало б яшчэ больш урачыстасці, саборнасці, каб на гэтым мерапрыемстве мелі магчымасць выказаць сваё стаўленне — не сумняваюся, цалкам пазітыўнае — кіраўнікі распаўсюджаных у нас хрысціянскіх канфесій. З вялікай цеплынёй, радасцю гэтае ўнікальнае свята маглі б прывітаць вядомыя ў краіне мастацкія калектывы. Мала, вельмі мала, прысутнічала на ўрачыстасцях тых, для каго менавіта і будавалася мячэць. Пажаданым быў бы прыезд у гэты дзень у Мінск прадстаўнікоў ад розных гарадскіх татарскіх абшчын.

Так і хочацца звярнуцца да кіраўніцтва Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Беларусі з прапановай праз год-два наладзіць нешта падобнае, зрабіўшы мерапрыемства па-сапраўднаму масавым, саборным, святочным, як гэта мела месца ў 2002 годзе, калі завяршылі капітальнае аднаўленне Лоўчыцкай мячэці ў Навагрудскім раёне.

Лагічна асноўныя функцыі па тэатралізацыі мерапрыемстваў з такой нагоды павінна ўзяць на сябе Упраўленне культуры Мінгарвыканкама, бо яны будуць насіць не толькі рэлігійны, але і свецкі характар. Да таго ж і кіраўніцтва мячэці не ставіць за мэту абмяжоўвацца выкананнем толькі канфесійных абавязкаў. Гэты адзін з самых выдатных у Еўропе мусульманскіх храмаў ужо і сёння з'яўляецца месцам правядзення культурна-асветніцкіх мерапрыемстваў, што толькі ўзбагачае, робіць больш разнастайным духоўнае жыццё беларускай сталіцы.

Усяму, што сказана вышэй, павінна папярэднічаць навуковая канферэнцыя на тэму: «Татары Мінска: гісторыя, сучаснасць, перспектывы». Удзельнічаць у ёй ёсць каму, і асабліва сярод навукоўцаў Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Масавая эміграцыя арабаў у Еўропу, учыненыя імі шматлікія тэракты, натуральна, выклікалі і выклікаюць у многіх адмоўнае стаўленне да мусульман увогуле. У Беларусі такое не назіраецца і, думаецца, галоўным чынам, дзякуючы міралюбным дачыненням паміж яе тытульным народам і спакон вякоў традыцыйнымі, справядліва будзе сказаць і карэннымі, для гэтай зямлі мясцовымі татарамі. Я больш чым упэўнены, што, зыходзячы з досведу стагоддзяў, мусульманскае набажэнства, уся культурна-асветніцкая дзейнасць прадстаўнікоў гэтай канфесіі будуць ладзіцца ў нас з улікам не толькі татарскіх, але і нацыянальных беларускіх культурна-моўных традыцый.

Беларускі народ, будзем верыць, знойдзе ў сябе моц пераадолець навязаную яму русіфікацыю і адстаяць сваю нацыянальна-культурную ідэнтычнасць. Усе этнічныя супольнасці Рэспублікі Беларусь, у іх ліку і татарская, толькі выйграюць, калі, клапоцячыся пра свае культурна-моўныя інтарэсы, не будуць забывацца і пра інтарэсы яе народа. Ён ніколі не запярэчыць, калі беларускія татары памкнуцца да масавага аваладання адной з найбольш прымальнай для іх цюркскай мовы, калі будуць ладзіць на ёй набажэнства, навучаць сваіх дзяцей, карыстацца ў якасці сродку камунікатыўных зносін. Думаецца, не будзе асаблівых праблем і з перайменаваннем прылеглай да Мінскай Саборнай мячэці вуліцы Грыбаедава, каб яна насіла імя каго-небудзь са славутых беларускіх татараў.

# «Заўтра» замарожанай краіны

Андрэй РАСІНСКІ

**Карціна «Заўтра» Юліі Шатун, дзе паказаная застылая ў часе беларуская штодзённасць, тлумачыць сітуацыю ў краіне лепей за палітычныя трактаты. Ці ёсць у замарожанай краіне надзея на заўтра?**





У ціхім правінцыйным горадзе настаўнік англійскай мовы падпрацоўвае рэпетытарам і дапамагае жонцы разносіць рэкламныя ўлёткі. Сямейная пара робіць рамонт і дапамагае сыну, які вучыцца ў сталіцы. Але грошай вобмаль, хаця ёсць латарэйны білет.

Юля Шатун зняла сваю дэбютную стужку ў Мазыры за чатыры дні — і з бацькамі ў галоўных ролях. Сціплы фільм з нулявым бюджэтам быў адразу заўважаны на «Лістападзе», дзе ў 2017 годзе атрымаў узнагароду Нацыянальнага конкурсу, а Міжнародны кінафэст у Марселі дадаў яшчэ чатыры прызы.

Юля сама вучылася ў Мінску на культуразнаўцу — і наведвала «Беларускі калегіюм». Пісьменнік і філосаф Валянцін Акудовіч параіў: «Пішыце свой галоўны боль». Сцэнар «Заўтра» меў шэсць варыянтаў, але, калі маці Юлі і выканаўца галоўнай жаночай ролі прачытала сцэнар, то спытала дачку: «Юля, навошта ты напісала пра наша жыццё?»

Жыццё ў беларускай правінцыі вязкае, непрыкметнае, спыненае, што старанна падкрэслівае камера. Курткі на рынку, дзе мерзнуць гандляркі, прадаюцца ў растэрміноўку, добрай працы няма, над прыпынкамі навісаюць плакаты пра шчаслівую Беларусь, а Ленін на цэнтральнай плошчы ўсцяж паказвае дарогу. У рэстаранах — забытыя мелодыя 80-х, абястлушчаны тварог у краме раскуплены, а на ранішніх вуліцах амаль нікога няма.

Прастора грае ў фільме асобную ролю. Доўгія планы, калі чалавек ідзе праз заснежанае поле, дамы, з якіх ніхто не выходзіць, бязлюдныя вуліцы. Публічная прастора ў краіне адсутнічае. Месца, дзе магчымыя хоць якія чалавечыя стасункі, сціснулася да сям’і. Рэплікі, кінутыя на пошце і ў краме, цалкам функцыянальныя, у іх няма нічога большага: развагі, парадаў, пытанняў пра сям’ю і дзяцей, меркаванняў і пажаданняў.

Да героя, які крочыць вуліцамі, ніхто не падыходзіць, няма ані суседзяў, ані сяброў, каб з кім павітацца, — і толькі самотны сабака падбягае да чалавека, каб потым разгублена адысці ўбок.

У аўтарытарным грамадстве людзі атамізаваныя, усе магчымыя жывыя суполкі здрабнелі і распыленыя. Людзі займаюцца выжываннем. І нават у кватэру ўлада ўваходзіць — праз тэлевізар. Мы чуем бадзёрыя навіны з галоўным знаёмым голасам: дзяржаўнае выпраменьванне раздзяляе мужа і жонку. І толькі мара зноў іх злучае. «Адзінае, што мне застаецца, — чакаць. — Чаго? — Новых цудаў», — гучыць за кадрам цытата з «Салярыса» Андрэя Таркоўскага.

Небагаты герой стужкі ўвесь час купляе латарэйныя квіткі і спадзяецца на свой шанец. І вось, нарэшце, апошні розыгрыш дарые пуцёўку. Трэба ехаць у Мінск, апісанні якога ў беларускім падручніку англійскай мовы выглядаюць такім жа цудам, як заморскія курорты.

Сталіца Беларусі перапоўненая людзьмі. Там могуць падказаць дарогу і штосьці параіць. Але ўсе клапатлівыя і зычлівыя людзі краіны выціснутыя пад зямлю, у падземныя пераходы. Плошчы і вуліцы горада — публічныя прасторы, дзе людзі сапраўды становяцца грамадзянамі, — пустыя. А на вакзале, дзе хапае народу, але ўсе толькі праездам, — людзі таксама самотныя.

**Сціплы фільм з нулявым бюджэтам быў адразу заўважаны на «Лістападзе», дзе ў 2017 годзе атрымаў узнагароду, а Міжнародны кінафэст у Марселі дадаў яшчэ чатыры прызы**

Паверхні будынкаў і рэчаў у фільме падкрэсліваюць задуху і закаркаванасць. Яны атачаюць, акальцоўваюць, заганяюць у пастку. Шурпатыя паверхні абыякавых дамоў, шматпавярховікі, на тле якіх чалавек — мураш, нарэшце — тупы мур цягніка «Мінск—Масква», перад якім сустракаюцца сын і бацька. Краіна атачаная, акупаваная і ўзятая ў палон. Вялізна-бліскучыя дзверы «Нацыянальных спартовых латарэй» абяцаюць фальшывае шчасце.

Герой, які прыехаў у сталіцу, каб атрымаць выйгрыш, пасля роздуму адмаўляецца ад чужога цуду — і так і не ўваходзіць ва ўрачыста-бліскучыя дзверы. (Дарэчы, пустая прастора ў кадрах з героем тут можа быць знакам засяроджанага ўнутранага жыцця).

Сціпла-мінімалістычная карціна мае дакладную драматургію, падобную да структуры казкі і міфу. Першая частка — гэта звыкла-штодзённы свет правінцыі. Другая частка — гэта іншасвет вялікага горада, дзе амаль усё інакш. Нарэшце, апошняя частка — гэта вяртанне пасля духоўнай перамены. Падобным чынам пабудаваны і «Крышталь», але там іншасвет — гэта правінцыя. Але ў абодвух выпадках мы маем абарваную і няздзейсненую мару, а замест паездкі ў далёкія далі ёсць засяроджанае шматкроп’е.

Чаму герой «Заўтра» адмовіўся ад паездкі? Самае простае тлумачэнне — матэрыяльнае. У сям’і няма нават грошай на купальныя касцюмы, дык лепей не ехаць, каб не ганьбіцца. Юля Шатун неяк расказвала, што выйграла аднойчы паступленне ў Санкт-Пецярбургскую кінашколу, але адмовілася ад прапановы, бо не мела чым заплаціць. Гісторыю з латарэяй у фільме можна было бы лічыць толькі адбіткам гэтай жыццёвай прыгоды. Але беларускія чыноўнікі, якія неадкладна накінуліся на стужку як на «чарнуху», падштурхнулі мяне да іншага тлумачэння.

У нядаўнім беларускім кіно ўжо была карціна з латарэйным квітком. У камедыі «На спіне ў чорнага ката» два вясковыя дзяды-сталіністы з дапамогай спакуслівай анёліхі зрывалі куш — і гулялі ў сталіцы, раскідвалі грашыма.

Карціна «Заўтра» ва ўсім супрацьлеглая ўзорнаму лукашэнкаўскаму гламуру. Калі ў «чорным каце» званком з адміністрацыі прэзідэнта запрашалі на здымкі Філіпа Кіркорава — пазаезджаную зорку суседняй дзяржавы, а галоўную дзіцячую ролю выконвала прэзідэнцкая ўнучка, то Юліі Шатун дапамагалі толькі блізкія людзі.

Калі ў дзяржаўнай кінакамедыі шмат кічу з дарагімі рэстаранамі, гатэлем «Еўропа» і Нацыянальнай бібліятэкай, то ў карціне Шатун — прыцішаныя фарбы, заснежаныя дарожкі і звыклыя шэрыя курткі.

Калі ў адным фільме — халява з ласкі вышэйшага кіраўніцтва з шумнымі п’янкамі далёка ад дому (можна дадаць сюды яшчэ трэш-стужачку «Мы, браты»), то ў карціне маладой рэжысёркі — сумленне, праца і засяроджанасць. Героям «Заўтра», як і персанажам з апошніх кадраў «Крышталю», ёсць пра што марыць і за што змагацца. Ціха, упарта, уласнымі сіламі, годна — і з падтрымкаю адзін аднаго.

І таму на пытанне, ці ёсць у замарожанай краіне надзея на заўтра, можна са шчырым сэрцам адказаць: «Заўтра» ёсць.

**Фота з сайта kino.bycard.by**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №794

Падпісана да друку 21.09.2018. 8.00.
Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.